

# ЗВЯЗДА

**1** ЛЮТАГА 2001 г. ЧАЦВЕР

№ 24 (24140)

ВЫДАЕЦЦА З 9 ЖНІЎНЯ 1917 Г.

Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З Е Т А

КОШТ 53 РУБЛІ

## РОЗГАЛАС

### Справа банка «Наваком» перададзена ў суд

**Следчае ўпраўленне Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў завяршыла расследаванне крымінальнай справы ў адносінах да службовых асоб АКБ «Наваком». 75 тамоў справы перададзены ў суд. Абвінавачанне па пяці артыкулах Крымінальнага кодэкса прад'яўлена сямі работнікам банка.**

Як высветлілася ў ходзе следства, на працягу некалькіх гадоў службовыя асобы банка заніжалі прыбыткі АКБ «Наваком», чым нанеслі дзяржаве ўрон у асабліва буйных памерах. Як паведамілі «Звяздзе» ў прэс-службе ДКФР, супрацоўнікі банка ўкралі больш за 11 мільёнаў рублёў і спрабавалі абмяняць іх на 50 тысяч долараў ЗША. Падчас гэтай аперацыі іх арыштавалі аператыўнікі фінансавай міліцыі. Украдзеныя грошы канфіскаваны ў даход дзяржавы, а на маёмасць і акцыі затрыманых накладзены арышт.

**Сяргей ПРОТАС.**

### Радавы тэрміновай службы страляў у міліцыянераў

**30 студзеня ў 2 гадзіны 30 хвілін пры нясенні службы ў мінскім мікраараёне «Уручча-4» нарад міліцыі Першамайскага раённага аддзела аб'яднання «Ахова» пры МУС заўважыў ваеннаслужачага, які меў пры сабе зброю. На просьбу спыніцца той адказаў чатырма адзіночнымі стрэламі з аўтамата. На шчасце, кулі праляцелі міма.**

Як паведаміў прэс-сакратар МУС Дзмітрый Партон, нарад міліцыі заняў абарончую пазіцыю за бетонным блокам. У мэтах затрымання адзін з міліцыянераў зрабіў папераджальны стрэл уверх. Пасля гэтага ваеннаслужачы паспрабаваў уцячы на тэрыторыю будоўлі. У працэсе праследавання міліцыянеры заўважылі кінуты ў снег аўтамат Калашнікава, а таксама шынель, рэмень і рукавіцы. Хутка пад бетоннымі плітамі будоўлі быў затрыманы і незнаёмец. Пры даглядзе яго рэчаў у кішэні шыняля быў знойдзены магазін для аўтамата і штык-нож.

Затрыманы быў дастаўлены ў Першамайскі РАУС Мінска. Ім аказаўся ўраджэнец Магілёўшчыны, які праходзіў тэрміновую службу ў адной з воінскіх часцей Уручча. Цяпер матывы, што падштурхнулі радавога да ўцёкаў, прыйдзецца высвятляць ваеннай пракуратуры.

**Валянцін СЯРГЕЕЎ.**

### Асноўным знешнегандлёвым партнёрам Беларусі застаецца Расія

**Аб'ём знешняга гандлю Беларусі за студзень—лістапад 2000 года, згодна са звесткамі Міністэрства статыстыкі і аналізу, склаў 14.435 мільёнаў долараў ЗША. Гэта на 29,9 працэнта больш, чым за аналагічны перыяд 1999 года.**

У прыватнасці, аб'ём экспарту павялічыўся на 28,4 працэнта (да 6 732 мільёнаў долараў), імпарту — на 31,2 працэнта (да 7 703 мільёнаў). Сальда знешняга гандлю склалася адмоўнае ў памеры 970,5 мільёна долараў ЗША.

Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі Беларусі ў 2000 годзе былі Расія (па выніках 11 месяцаў на яе долю прыпадала 58,2 працэнта ўсяго аб'ёму знешнегандлёвых аперацый), Украіна (5,7 працэнта), Германія (5,2), Польшча (3,2), Латвія (3,1), Літва (2,6) і Італія (1,5 працэнта).

**Сяргей СНЕГІН, БелаПАН.**



«першаразрадніца»

Анатоль КЛЯШЧУК

### Прэзідэнт прыняў... ...У.Латыпава

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 31 студзеня прыняў з чарговым рабочым дакладам дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь Урала Латыпава.**

Прэс-служба кіраўніка дзяржавы паведаміла, што прэзідэнт праінфармаваны аб развіцці сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы, рабоце праваахоўных органаў па барацьбе са злачынствамі і прадухіленню правапарушэнняў, а таксама аб дзейнасці па ўмацаванню правапарадку ў краіне.

У ходзе справаздачы разгледжаны шэраг іншых пытанняў, якія датычацца дзейнасці Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь, уключаючы пытанні кадравага забеспячэння.

### ...А.Папкова

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 31 студзеня прыняў з дакладам намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Аляксандра Папкова.**

Як паведаміла прэс-служба прэзідэнта, Аляксандр Папкоў далажыў аб галоўных параметрах падрыхтаванай па даручэнню кіраўніка дзяржавы праграмы рэфармавання аграпрамысловага комплексу краіны ў 2001—2005 гадах. Праграма, у прыватнасці, прадугледжвае больш эфектыўнае выкарыстанне ўжо створаных у рэспубліцы прамысловых комплексаў і перапрацоўчых прадпрыемстваў, адпаведную спецыялізацыю саўгасаў і калгасаў.

Канцэпцыя праграмы ў цэлым знайшла падтрымку ў прэзідэнта. Аляксандр Лукашэнка даручыў падрыхтаваць нараду ў кіраўніка дзяржавы па гэтаму пытанню з прыцягненнем шырокага кола спецыялістаў, у ходзе якой будзе разгледжаны прапанаваны праект праграмы.

Прэзідэнт быў праінфармаваны таксама аб падрыхтоўцы да вясенне-палявой кампаніі. Кіраўнік дзяржавы выказаў нездаволенасць ходам падрыхтоўчых работ. У прыватнасці, была звернута ўвага на праблемы накаплення мінеральных угнаенняў, арганізацыю рамонту сельскагаспадарчай тэхнікі. Аляксандр Лукашэнка даў канкрэтныя даручэнні па ўстараненню існуючых недахопаў.

У ходзе гутаркі былі абмеркаваны прапановы па вырашэнню асобных кадравых пытанняў, уключаючы назначэнне міністра сельскай гаспадаркі рэспублікі.

На сустрэчы таксама разгледжаны шэраг пытанняў, звязаных з работай Аляксандра Папкова як куратара Магілёўскай вобласці.

**БЕЛТА.**

### Эканамічны агляд ад Агенцтва Граўцова

**Мінэканомікі праіндэксавала тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі.**

Плата за карыстанне жылымі памяшканнямі (тэхнічнае абслугоўванне) за студзень устаноўлена ў памеры 9,53 рубля за 1 кв. м агульнай плошчы).

Тарыфы на аказваемыя насельніцтву камунальныя паслугі (газа- і водазабеспячэнне, каналізацыя, ацяпленне, карыстанне ліфтам, вываз цвёрдых бытавых адходаў) індэксуецца за студзень на 5,1 працэнта.

У такім жа памеры — на 5,1 працэнта — індэксуюцца з 1 лютага тарыфы на ўнутрырэспубліканскія перавозкі грузаў чыгуначным транспартам.

**Урачы і правізары, якія працуюць у сельскай мясцовасці, аднесены да катэгорыі работнікаў, якім могуць быць прадастаўлены службовыя жылыя памяшканні.**

Адпаведная пастанова прынята Саветам Міністраў 20 студзеня за № 72.

**Папоўніўся Спіс вытворчасцяў, цэхаў, прафесій і пасад са шкоднымі ўмовамі працы, работа ў якіх дае права на скарочаную працягласць рабочага часу і дадатковых водпускаў.**

Змяненні закранулі такія раздзелы Спіса, як «Хімічныя вытворчасці» і «Ахова здароўя».

### Абмеркаваны пытанні знешняга гандлю

**31 студзеня Аляксандр Лукашэнка прыняў з дакладам намесніка прэм'ер-міністра — міністра замежных спраў Міхаіла Хвастова.**

Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства далажыў прэзідэнту аб выніках знешняга гандлю Беларусі ў 2000 годзе.

Кіраўнік дзяржавы заслухаў інфармацыю па актуальных пытаннях будаўніцтва Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі і даў даручэнні па рэалізацыі рашэнняў, накіраваных на напаўненне рэальным зместам інтэграцыйных працэсаў.

У ходзе сустрэчы таксама было абмеркавана кола пытанняў, што датычацца ўзаемаадносінаў Беларусі з еўрапейскімі рэгіянальнымі арганізацыямі.

У прыватнасці, закрануўшы ўзаемаадносіны Беларусі з КНГ АБСЕ, кіраўнік дзяржавы адзначыў, што гэта работа павінна весціся канструктыўна, спакойна, без залішніх эмоцый як з боку ўладаў, так і самой групы.

**БЕЛТА.**

### УСМІХНЁМСЯ




## Анекдот ад...

**інжынера-тэхнолага Полацкага вінна-гарэлачнага завода Андрэя ВАРОНЫ:**

*У краме мужык купляе вудачку. Адну паглядзеў, другую, трэцюю...*

*Перабраў усё што было, але ніяк не можа выбраць нешта падыходзячае. Стомлены гандляр глядзеў-глядзеў і кажа:*

*— Паслухайце, паважаны, вы можа лепш рыбай возьмеце?!*

**Рубрыку вядзе Алесь СІВЫ.**

### ТОЛЬКІ ФАКТ

Сакратарыят ААН па барацьбе з распаўсюджаннем наркотыкаў і прадухіленню злачыннасці падлічыў, што **колькасць наркаманаў на Зямлі** складае 180 мільёнаў чалавек.

У Беларусі амаль 2,5 мільёна пенсіянераў, 416 тысяч інвалідаў, **30 тысяч дзяцей-сірот**, тымі або іншымі відамі льгот карыстаюцца да 40 працэнтаў насельніцтва.

Згодна з даследаваннямі, **любыя інфекцыі**, якія перадаюцца палавым шляхам, робяць чалавека больш схільным да ВІЧ-інфіцыравання. Рызыка павялічваецца з 3 да 22 разоў.

## КУРСЫ ВАЛЮТ

**Курсы абмену наяўных валют на 31 студзеня па стану на 10.00**

| Назва банка | USD Купля | USD Продаж | DM Купля | DM Продаж | RUR Купля | RUR Продаж | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Белпрамбудбанк | 1200,00 | 1220,00 | 555,00 | 575,00 | 40,00 | 43,00 | (017) 284-81-10 |
| Славнефтебанк | 1210,00 | 1225,00 | 540,00 | 575,00 | 41,00 | 44,00 | (017) 216-23-90 |

**Курсы замежных валют, устаноўленыя НБ РБ на 1.02.2001 г. (для б/н разлікаў)**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1210,00 | 1 нямецкая марка | 575,11 |
| 1 еўра | 1124,82 | 1 польскі злоты | 297,77 |
| 1 латвійскі лат | 1957,14 | 1 расійскі рубель | 42,60 |
| 1 літоўскі літ | 302,42 | 1 украінская грыўня | 222,81 |

**Курсы замежных валют для безнаяўных разлікаў**

| | USD | DM | 1000 BRB | EUR |
|---|---|---|---|---|
| Цэнтрабанк РФ (на 1.02) | 28,40 | 13,45 | 22,79 | 26,31 |
| Курс у гандлёвых кампаніях (на 31.01.2001) | 1240 | 1290 | | |

Агенцтва Уладзіміра Граўцова

# Новыя назначэнні

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка 31 студзеня разгледзеў шэраг кадравых пытанняў.**

Указам кіраўніка дзяржавы **Аляксандр Міхайлавіч Курлыпа** назначаны намеснікам міністра фінансаў Рэспублікі Беларусь.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь даў згоду на назначэнне **Уладзіміра Аляксандравіча Будніка** старшынёй Добрушскага раённага выканаўчага камітэта, **Дзмітрыя Аляксандравіча Сівіцкага** — генеральным дырэктарам Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Беларускі шынны камбінат «Белшына», **Сцяпана Канстанцінавіча Пісарэвіча** — намеснікам дзяржаўнага сакратара — членам Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы, **Сяргея Пятровіча Мартысюка** — начальнікам адміністрацыйнага дэпартамента Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы, **Юрыя Казіміравіча Шышкіна** — начальнікам дэпартамента рэгіянальнага і міжнароднага супрацоўніцтва Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы, **Аляксандра Аляксандравіча Мушты** — намеснікам начальніка дэпартамента інфармацыі Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы, **Мікалая Сідаравіча Шэлега** — намеснікам начальніка арганізацыйна-аналітычнага дэпартамента Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы.

**БЕЛТА.**

# Ад узроўню культуры залежыць узровень грамадства

**Учора ў Палацы Рэспублікі пачала работу рэспубліканская нарада работнікаў культуры «Аб мерах па вырашэнню праблем развіцця культуры і мастацтва».**

У першай палове дня адбылася рабочая сустрэча ўдзельнікаў нарады з прадстаўнікамі міністэрстваў эканомікі, фінансаў, працы, юстыцыі, у ходзе якой былі абазначаны асноўныя праблемы сённяшняга дня і пастаўлены пытанні на перспектыву. Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Леанід Гуляка, які вёў гэта дынамічнае пасяджэнне ў «дыялогавым рэжыме», адразу задаў дзелавы тон сустрэчы: кожны жадаючы на працягу 3-4 хвілін мае магчымасць выказаць прапановы па вырашэнню праблем — канкрэтна, без «справаздачнага» шматслоўя. Прапанова міністра была падтрымана, і за паўтары гадзіны быў акрэслены згустак балючых тэм сферы культуры і мастацтва — сферы, менавіта ад якой у многім залежыць развіццё беларускага грамадства.

— Я хачу спытаць: ці любіце вы тэатр? — звярнулася да прадстаўнікоў міністэрстваў і ведамстваў народная артыстка Святлана Данілюк. — Аклад заслужанага артыста — 32 тысячы рублёў. Хто прыдумаў такую тарыфную сетку?!. Я пытаюся: ці любіце вы тэатр? — але ведаю, якім будзе адказ. Канешне, любіце. Дзетак сваіх водзіце ў тэатр, каб абуджаліся пачуцці добрыя... Два стагоддзі назад Уітмен напісаў: «Будь проклят тот, кто, наслаждаясь песней, даст с голоду поэту умереть!». Мне вельмі не хочацца, каб гэтыя словы паэта заставаліся актуальнымі і ў XXI стагоддзі.

Нізкі ўзровень заработнай платы — адна з галоўных праблем работнікаў сферы культуры. Размова вялася таксама пра лёс гісторыка-культурнай спадчыны, канцэптуальную безаблічнасць Беларускага тэлебачання (БТ «забылася» пра нацыянальную культуру і мастацтва?..), пра выдзяленне сродкаў на камплектаванне бібліятэчных фондаў, падтрымку Дамоў творчасці «Іслач» і «Тэатральны», пра сацыяльную неабароненасць маладых мастакоў, праблемы аховы аўтарскіх правоў, стварэнне музычнага выдавецтва, падатковыя льготы для спонсараў і мецэнатаў мастацтва, узнімаліся і многія іншыя надзённыя пытанні.

У зацікаўленай размове бралі ўдзел начальнікі абласных упраўленняў культуры, загадчыкі раённых аддзелаў культуры, прадстаўнікі прафсаюза, работнікі дзіцячых школ мастацтваў, старшыні творчых саюзаў, вядомыя і паважаныя ў краіне людзі: Аляксей Дудараў, Ігар Лучанок, Сяргей Картэс, Генадзь Буралкін, Рычард Смольскі, Іван Вашкевіч, іншыя.

На некаторыя з паступіўшых пытанняў адразу ж адказвалі намеснік міністра эканомікі Андрэй Тур, першы намеснік міністра працы Валерый Паўлаў, намеснік міністра фінансаў Анатоль Сверж і намеснік міністра юстыцыі Аляксандр Петраш.

У другой палове дня ўдзельнікі нарады вялі ажыўленыя дыскусіі ў 9 секцыях. Чакаецца, што сёння перад дзеячамі культуры і мастацтва выступіць А. Р. Лукашэнка.

**Таццяна ПАДАЛЯК.**

# Сяргей Гурэнка перабіраецца на Пірэнеі

**Капітан нацыянальнай футбольнай зборнай Беларусі Сяргей Гурэнка гэтымі днямі змяніў «прапіску», перабраўшыся з італьянскай «Ромы» ў іспанскую «Сарагосу».**

Па словах жонкі Сяргея Гурэнкі Аксаны, яе муж вельмі задаволены такім паваротам лёсу, бо на Апенінах ён у асноўным сядзеў на лаўцы запасных, а вось на Пірынеях яму прыйдзецца пагуляць. Праўда, пакуль невядома колькі, бо напачатку кіраўніцтва іспанскага клуба бярэ Гурэнку на 5 месяцаў у арэнду. Калі ж беларус ў «Сарагосе» добра «прыжывецца», то тады яму «свеціць» чатырохгадовы кантракт. Зменай замежнага клуба капітанам беларускай зборнай застаўся задаволены і яе настаўнік Эдуард Малафееў. «Вельмі рады за Сярожу, — зазначыў Эдуард Васільевіч.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# Старшыня Савета Рэспублікі Аляксандр Вайтовіч выступіў у Савеце Федэрацыі

Апошні дзень першага афіцыйнага візіту дэпутатаў верхняй палаты беларускага парламента ў Расійскую Федэрацыю пачаўся з выступлення Старшыні Савета Рэспублікі Аляксандра Вайтовіча на пасяджэнні Савета Федэрацыі. Ён адзначыў, што, «уступіўшы ў трэцяе тысячагоддзе, нашы народы імкнуцца жыць адзінай братэрскай сям'ёй у міры, сяброўстве і згодзе». Таму галоўная задача двух парламентаў на сучасным этапе — стварэнне моцнай Саюзнай дзяржавы, падкрэсліў спікер беларускага парламента. Нам трэба выпрацаваць такую мадэль жыццядзейнага дзяржаўнага ўладкавання, якая будзе надзейна забяспечваць стабільнасць і прагрэс у развіцці нашых краін, узмоцніць іх становішча ў сусветнай супольнасці, стане прыкладам для іншых.

Паглыбленне інтэграцыйных сувязяў двух братніх народаў ажыццяўляецца ва ўсіх сферах дзейнасці, сказаў далей Аляксандр Вайтовіч. У рамках Саюза Беларусі і Расіі актыўна выкарыстоўваюцца перавагі міждзяржаўнага падзелу працы, спецыялізацыі і кааперацыі вытворчасці. На гэтай аснове сфарміраваны саюзны бюджэт, распрацаваны і рэалізуюцца каля 50 сумесных праграм і праектаў. З мэтай узгаднення дзеянняў Беларусі і Расіі ў ажыццяўленні структурных пераўтварэнняў у прамысловасці падпісана міжурадавае Пагадненне аб правядзенні адзінай структурнай прамысловай палітыкі. Вядзецца работа па фарміраванню канкурэнтнага асяроддзя, падтрымцы малога і сярэдняга прадпрымальніцтва, гарманізацыі заканадаўства і нарматыўна-метадычнай базы ў гэтай галіне.

Тым не менш, па меркаванню выступоўца, неабходна дакладна ацэньваць сапраўднае становішча спраў і разумець, што для станоўчых вынікаў у саюзным будаўніцтве трэба зрабіць яшчэ шмат. Неабходна стварыць прававыя асновы для забеспячэння глыбокай эканамічнай інтэграцыі, для фарміравання адзінай мытнай прасторы, стварэння адзінай сістэмы тарыфнага і нетарыфнага рэгулявання, увядзення адзінай грашовай адзінкі.

Выканаўчая ўлада, прадстаўленая Саветам міністраў Саюзнай дзяржавы, ужо дзейнічае, падкрэсліў Аляксандр Вайтовіч, але пакуль адсутнічае заканадаўчы орган. І несумненна, што першым крокам у паскарэнні інтэграцыйных працэсаў павінна быць падрыхтоўка і правядзенне выбараў у Саюзны парламент.

Нашымі бакамі, падкрэсліў Аляксандр Паўлавіч, падрыхтаваны нацыянальныя законапраекты аб выбарах дэпутатаў. Дзяржаўнай Думай Расіі такі дакумент ужо прыняты ў першым чытанні. Новы састаў Нацыянальнага сходу Беларусі таксама прыступіць да абмеркавання праекта закона аб выбарах у Саюзны парламент. Важна, каб прымаемыя ім законы былі абавязковымі да выканання і ў Беларусі, і ў Расіі, а таксама мелі перавагу ў выпадку калізіі паміж нацыянальнымі законамі і законамі Саюзнай дзяржавы.

У бліжэйшы час, сказаў спікер верхняй палаты беларускага парламента, важна завяршыць інвентарызацыю дзеючага заканадаўства, вырашыць праблему ўнутраных супярэчнасцяў заканадаўчых актаў не толькі паміж асобнымі галінамі права, але і паміж асобнымі законамі дзяржаў-удзельніц. Сярод асноўных стратэгічных накірункаў Аляксандр Вайтовіч выдзеліў і распрацоўку Канстытуцыйнага акта Саюзнай дзяржавы, які вызначыць яе дзяржаўнае ўладкаванне, і асновы функцыянавання яе інстытутаў. Без гэтага дакумента Саюзны парламент, на думку Аляксандра Паўлавіча, не атрымае тых паўнамоцтваў, якія дэлегаваны яму паводле Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы. Для вырашэння гэтых пытанняў узнікае неабходнасць некаторых канстытуцыйных працэдур, змяненняў у канстытуцыях нашых краін.

У заключэнні свайго выступлення Аляксандр Вайтовіч падкрэсліў, што «вырашэнне вялікай задачы яднання нашых народаў, стварэння моцнай Саюзнай дзяржавы — гэта правільны шлях, па якім ішлі многія пакаленні нашых продкаў. Для гэтага неабходна выкарыстаць увесь назапашаны намі эканамічны, заканадаўчы, духоўны і маральны патэнцыял беларускага і рускага народаў».

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**
*г. Масква.*

## *ПРААН працягвае падтрымку дэмакратычных пераўтварэнняў у нашай краіне*

**З 26 студзеня дэлегацыя Беларусі на чале з першым намеснікам міністра эканомікі Мікалаем Зайчанкам бярэ ўдзел у рабоце першай сесіі Выканаўчага Савета ПРААН/ЮНФПА ў Нью-Йорку. Знаходжанне беларускай дэлегацыі можа быць вельмі рэзультатыўным для нашай краіны. Чакаецца, што на сесіі будзе прадстаўлены для зацвярджэння праект Другой праграмы супрацоўніцтва для Беларусі на 2001—2004 гады.**

Як вядома, Праграма развіцця ААН ажыццяўляе сваю дзейнасць на тэрыторыі нашай краіны ўжо на працягу некалькіх гадоў. З 1997 года дзейнасць ПРААН носіць мэтанакіраваны характар. Менавіта чатыры гады таму Выканаўчы Савет ПРААН зацвердзіў першую праграму для нашай краіны. Паводле яе палажэнняў асноўнымі прыярытэтамі супрацоўніцтва стала садзейнічанне нашай краіне ў вырашэнні пытанняў фарміравання ўстойлівых крыніц даходаў насельніцтва, паляпшэння стану асяроддзя і ўдасканалення дзяржаўнага кіравання. Наша краіна станоўча ацаніла вынікі супрацоўніцтва з Праграмай развіцця ў 1997—2000 гадах.

Чакаецца, што ў аснове новай праграмы для Беларусі будуць закладзены два накірункі: садзейнічанне эканамічнаму развіццю шляхам замацавання дэмакратычнага кіравання і ахова і эфектыўнае выкарыстанне навакольнага асяроддзя.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# Каб не страціць будучыню

**Гэтымі днямі ў Нацыянальным цэнтры творчасці дзяцей і моладзі адбылася прэс-канферэнцыя намесніка міністра адукацыі прафесара Алега Слукі і кіраўнікоў рэспубліканскіх пазашкольных устаноў выхавання. У ходзе сустрэчы абмяркоўвалася сітуацыя, што склалася ў краіне з выхаваннем дзяцей і моладзі праз творчасць і мастацтва.**

Першае, што ўразіла прысутных, гэта багатая выстава дзіцячых вышыванак, аплікацый, вырабаў, выкананых на даволі прыстойным узроўні. Незвычайным было тое, што ўся гэтая прыгажосць зроблена рукамі выхаванцаў Петрыкаўскага і Магілёўскага спецПТВ. Хто не ведае — менавіта там праходзяць прымусовае перавыхаванне падлеткі, якія ўчынілі розныя правапарушэнні і злачынствы. Нават забойствы.

— Чалавек, пазбаўлены волі, — з'ява ненатуральная, — адзначыў Алег Слука, — асабліва калі гэта дзіця.

Сапраўды, мінулае стагоддзе было экстрэмальным для дзяцей Беларусі. Рэвалюцыі, войны, катастрофы, ломка светапогляду... І зараз мы проста вымушаны стварыць якасна новыя ўмовы для развіцця ўжо сённяшняй моладзі. Гэта задача не толькі Міністэрства адукацыі. Аднак шмат залежыць і ад асветы.

Як вядома, агульнаадукацыйная школа знаходзіцца ў стане сур'ёзнага рэфармавання. Пад яго трапляе не толькі фарміраванне інтэлектуальнага стрыжня асобы, але ставіцца задача развіваць і духоўныя, маральныя якасці асобы. Усё гэта закладзена ў новыя школьныя праграмы, вучэбныя планы. Здаецца, што ўсе пагадзіліся з тым, што неабходна выхаваць сапраўднага грамадзяніна, патрыёта, сем'яніна (Беларусь займае адно з першых месцаў па росту сацыяльнага сіроцтва).

З арганізацыяй вольнага часу школьнікаў не ўсё бязвоблачна. Самы арганізаваны і шматколькасны сектар тут таксама належыць Міністэрству адукацыі — каля 500 пазашкольных цэнтраў творчасці дзяцей і моладзі, дзе больш за 360 тысяч школьнікаў асвойваюць каля 150 відаў дзейнасці. Не сакрэт, што аплата працы настаўнікаў у нас пакуль не на належным узроўні. Дык вось, тыя, хто працуе ў цэнтрах творчасці, атрымліваюць яшчэ менш. На думку намесніка міністра адукацыі Алега Слукі, неабходна прыцягнуць увагу грамадскасці да праблем выхавання і развіцця нашых дзетак, прыцягнуць да супрацоўніцтва партыі, грамадскія арганізацыі, фонды, фірмы, прадпрыемствы.

На бліжэйшай калегіі Міністэрства адукацыі будзе разглядацца пытанне аб аплаце працы супрацоўнікаў пазашкольнай сістэмы выхавання дзяцей і моладзі, а таксама іншыя моманты, што датычацца гэтай праблемы.

**Сяргей ПРОТАС.**

АДУКАЦЫЯ

# З 2002 года веды беларускіх школьнікаў будуць ацэньвацца па 10-бальнай сістэме

**На сённяшні дзень дашкольнай адукацыяй ахоплены ў Беларусі 70,2 працэнта ўсіх дашкольнікаў (у пяцігадовым узросце — 85 працэнтаў). Нават ў савецкія часы максімальная лічба ахопу дзяцей дашкольнай адукацыяй не перавышала ў краіне 59 працэнтаў. Аб гэтым паведаміў на прэс-канферэнцыі, прысвечанай стану і перспектывам развіцця беларускай адукацыйнай сістэмы, міністр адукацыі Васіль Стражаў.**

1 верасня 2000 года ў падрыхтоўчыя класы беларускіх школ прыйшлі 95 працэнтаў шасцігодак. Дарэчы, гэтая лічба застаецца нязменнай у нашай краіне тры апошнія гады. Сёння замежную мову вывучаюць у школах літаральна з першага года навучання ў тры разы больш дзяцей, чым у 1990 годзе. У бліжэйшыя 5—7 гадоў, як плануецца, вывучаць замежную мову ў пачатковай школе будуць ужо 100 працэнтаў маленькіх беларусаў. Колькасць ахопу беларускіх школьнікаў дыферэнцыраваным навучаннем дасягае ўжо 35 працэнтаў, а ў старэйшых класах на паглыбленае вывучэнне асобных прадметаў пераведзены кожны другі вучань.

— Сёння шмат гучыць крытыкі ў адрас рэформы беларускай школы, — зазначыў Васіль Стражаў. — Але нярэдка тыя, хто яе крытыкуюць, прыводзяць у якасці аргументаў прыклады з навучальных праграм 5-х, 7-х, 8-х класаў. У сувязі з гэтым хачу засяродзіць увагу ўсіх на тым, што структурная перабудова школы і змяненні зместу навучання датычацца толькі тых дзяцей, якія нарадзіліся ў 1992 годзе і пазней. Базавую школу рэформа закране толькі ў 2002 годзе. Дзеці, якія прыйшлі ў школу ў 1998 годзе, будуць навучацца ў базавай школе ўжо на рэжыме пяцідзёнкі і па новых вучэбных планах. Поўны ж пераход беларускай школы на пяцідзённы навучальны рэжым адбудзецца толькі ў 2010 годзе.

У 2001 годзе колькасць выпускнікоў сярэдніх школ дасягне ў нашай краіне максімальнай за апошнія 15 гадоў лічбы. У наступныя пяць гадоў яна будзе знаходзіцца на ўзроўні 2000 года, а затым пачне паступова змяншацца. Мяркуецца, што ў выніку дэмаграфічнага крызісу ў беларускім грамадстве ў 2010 годзе колькасць школьнікаў зменшыцца на 35 працэнтаў у параўнанні з 1998 годам.

Што датычыцца рэфармавання сістэмы прафтэхадукацыі, то да 2010 года аснову прафесійна-тэхнічнай адукацыі будуць складаць два тыпы навучальных устаноў: прафесійныя ліцэі і прафесійна-тэхнічныя каледжы. Адразу ў трох напрамках будзе рэфармавацца сістэма сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Па-першае, знаёмыя ўсім тэхнікумы будуць пераўтварацца ў каледжы: іх выпускнікі будуць мець магчымасць атрымліваць вышэйшую адукацыю ў скарочаныя тэрміны. Па-другое, частка сярэдніх спецыяльных устаноў будзе пераўтворана ў вышэйшыя каледжы. Вышэйшыя ліцэі будуць адкрывацца пераважна ў буйных гарадах. Па-трэцяе, некаторыя сярэднія спецыяльныя ўстановы будуць уключаны ў якасці структурных адзінак у ВНУ. У такіх навучальных установах будуць дзейнічаць інтэграваныя вучэбныя планы і ажыццяўляцца непарыўная сістэма навучання.

З бліжэйшых новаўвядзенняў хацелася б яшчэ адзначыць пераход з 2002 года ўсіх беларускіх школ на 10-бальную ацэнку ведаў навучэнцаў.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

СЁННЯ

## Сонца

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.57 | 16.49 | 8.52 |
| Віцебск – | 7.52 | 16.34 | 8.42 |
| Магілёў – | 7.46 | 16.38 | 8.52 |
| Гомель – | 7.38 | 16.41 | 9.03 |
| Гродна – | 8.11 | 17.05 | 8.54 |
| Брэст – | 8.06 | 17.11 | 9.05 |

## Месяц

**Першая квадра 1 лютага**
*З 23.01 Месяц — у сузор'і Цяльца.*

## Імяніны

***Пр.** Макара, Савы, Фёдара, Антона, Арсена, Марка;*
***К.** Брыгіды, Ігната;*

## Надвор'е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, часам снег, па ўсходняй палавіне снег моцны, мяцеліца, на дарогах снежныя заносы. Вецер паўночна-ўсходні, умераны, па ўсходу парывы да 15—20 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску — 4—6, Мінску, Брэсце, Гродне і Магілёве — 3—5, Гомелі — 2—4 градусы марозу.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі. 2 лютага на большай частцы тэрыторыі снег, па ўсходу снег моцны, месцамі на дарогах снежныя заносы. Вецер паўночны, умераны, па ўсходу парывы 15—17 м/сек. Тэмпература на працягу сутак — 4—9, уначы месцамі да 13 градусаў ніжэй нуля. 3-га часам невялікі снег, вецер паўночны, 5—10 м/сек. Тэмпература ўначы — 8—13, пры праясненнях да 18, удзень — 6—11 градусаў марозу.

## *Неспрыяльныя дні ў лютым*

**1 — з 18 да 20 гадзін**
**5 — з 5 да 7**
**7 — з 14 да 16**
**11 — з 7 да 9**
**14 — з 17 да 19**
**18 — з 20 да 22**
**24 — з 6 да 9**
**26 — з 7 да 9 гадзін**

**Паводле дадзеных доктара медыцынскіх навук В. ХАСНУЛІНА.**
*«Здоровье».*

## *Астралагічны прагноз Веранікі Кудраўцавай*

**2 лютага, ПЯТНІЦА**

Да поўдня доўжыцца сатанінскі месяцавы дзень, сімвал якога — Кажан, які збівае з правільнага шляху. Перыяд, спрыяльны для індывідуальнай работы, заняткаў па дому.

Не рэкамендуецца даваць якія-небудзь пісьмовыя абавязацельствы, абяцанні і клятвы. Няблага б памянуць продкаў, успомніць тых людзей і тое добрае, што было ў мінулым. Лепшы дзень для баўлення часу сярод блізкіх людзей.

Тым больш што месячны сімвал пасляабедзеннага перыяду — Крыніца, што дорыць жыватворныя сілы сям'і, роду. Здрада лічыцца сёння найбольш цяжкім грахом.

Рэкамендуецца пачынаць любое лячэнне. Няблага прыхапіць з сабой зеленавата-карычневую яшму — алхімічны камень, які ахоўвае ад хвароб. Пажадана своечасова палячыць зубы, да выхадных.

Сняцца прарочыя сны, якія збываюцца праз доўгі час.

## У студзені выдаткі на харчаванне «сярэдняга» жыхара сталіцы павінны перавышаць 40 тысяч рублёў

**Згодна з вынікамі апошняга маніторынгу спажывецкага рынку, які быў праведзены аддзелам сацыяльна-эканамічных праблем ФПБ, з 21 снежня кошт «стандартнага» набору з 25 асноўных прадуктаў харчавання, разлічанага па нормах мінімальнага спажывецкага бюджэту, у сярэднім па краіне павялічыўся на 5,8 працэнта і склаў 31.347 рублёў.**

Паводле даных прафсаюзаў, за гэты час найбольш прыкметна «харчовы кошык» падаражэў у Гомелі і Брэсце (адпаведна на 10,5 і 6,3 працэнта), а найменшы паказчык росту (2,7 працэнта) адзначаны ў Гродне. Такім чынам, даводзіцца канстатаваць, што ў студзені Брэст (сярэднямесячныя выдаткі жыхароў якога на харчаванне зараз ацэньваюцца ў 28.052 руб.), ужо крыху саступае неафіцыйны статус самага таннага абласнога цэнтра краіны Віцебску, дзе гэта сума складае 28.015 рублёў. У той жа час, калі зыходзіць з вызначаных МСБ нормаў спажывання і мясцовых цэн на асноўныя прадукты, «харчовы кошык» жыхара Гродна адпавядае 29.667 руб., Магілёва — 30.321, Гомеля — 31.569, а Мінска — 40.351 рублю ў месяц.

**Сяргей ГРЫБ.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## «Жывая кантрабанда» праз граніцу не прайшла

**Пагранічнікі Лідскага атрада спынілі даволі рэдкую спробу кантрабанды.**

Як паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў, 29 студзеня ў раёне населенага пункта Даўгердзішкі былі заўважаны двое невядомых. Як высветлілася, яны спрабавалі перагнаць праз граніцу... быка і пяць кароў. Аднак, заўважыўшы пагранічнікаў, «даглядчыкі жывёлы» зніклі на тэрыторыі Літвы. «Жывая кантрабанда» вагой больш як дзве тоны перададзена мытным службам. Яна ацэнена ў 1 мільён 158 тысяч рублёў. А ўсяго за мінулыя суткі беларускія пагранічнікі спынілі пяць выпадкаў незаконнага перамяшчэння матэрыяльных каштоўнасцяў на суму амаль два мільёны рублёў.

**Ігар ХАДАСЕВІЧ, БЕЛТА.**

## Асаблівасці зімовай рыбалкі

**Шмат хто, напэўна, памятае фільм з падобнай назвай. У фільме было над чым пасмяяцца. У канкрэтным выпадку «героям», хутчэй за ўсё, не да смеху...**

Нашы «героі», жыхары горада Любань, палічылі за лепшае проста пракрасціся ў прамысловую зону мясцовага рыбакомплексу, узламаць сартавальную базу і, што называецца, «нахапаць» гатовай прадукцыі, г. зн. рыбы.

Але вось «бяда»! Дзяжурны вартаўнік заўважыў «рыбаловаў», і прыбыўшая праз дзве хвіліны група затрымання Любанскага раённага аддзялення «Ахова» пры МУС Беларусі застала «гасцей» акурат тады, калі тыя пакавалі чацвёрты мяшок з карпамі.

Усяго ж зладзеі хацелі знесці больш за 200 кг рыбы на суму каля 220 тысяч рублёў.

**Аляксандр ЧАРНЯЎСКІ.**

## Бязлітасная маці і жонка

**Факты, якія ўстанавілі супрацоўнікі крымінальнага вышуку Лепельскага РАУС у ходзе правядзення аператыўных мерапрыемстваў па пошуку без вестак зніклай 27-гадовай жанчыны, нагадваюць сюжэты з фільма жахаў. Інакш не растлумачыш падрабязнасці гэтай страшнай крымінальнай справы.**

Як устанавілі следчыя, якія па заяве сваякоў шукалі работніцу Бароўскага цэнтра творчасці, апошняя стала ахвярай сваёй маці. 60-гадовая жанчына сваімі рукамі расправілася з дачкой: падчас спрэчкі яна нанесла смяротную рану сякерай свайму дзіцяці, а цела схавала ў лесе. Больш таго, высветлілася, што дачка была не першай ахвярай гэтай жанчыны. Больш месяца таму забойца падобным жа чынам расправілася і са сваім мужам, ваенным у адстаўцы, цела якога закапала на прысядзібным участку. Дарэчы, заява аб знікненні мужа ў міліцыю не паступала.

**Ігар ГРЫШЫН.**



У кожнага свая рэпетыцыя (заняткі ў ДК г. Салігорска).

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ

## «Многім у Латвіі падабаюцца нашы вырабы, і яны імкнуцца знайсці іх на латвійскім рынку»

**Неўзабаве ў Латвіі пройдуць Дні эканомікі і культуры Рэспублікі Беларусь, а таксама выстаўка «БеларусьЭКСПА-2001». Латвія — не проста наша суседка, але і буйнейшы гандлёвы партнёр. Ва ўсякім разе, па аб'ёму таваразвароту з намі яна пераўзыходзіць такія буйныя рэспублікі колішняга Саюза, як Казахстан і Узбекістан, уступаючы па гэтаму паказчыку толькі Расіі і Украіне. У паспяховым развіцці і ўмацаванні добрасуседскіх адносінаў, росце гандлёвых сувязяў немалая заслуга Пасла Рэспублікі Беларусь у Латвіі Міхаіла МАРЫНІЧА. Напярэдадні адкрыцця Дзён эканомікі і культуры мы і папрасілі яго пракаменціраваць гэту падзею.**

— У перыяд з 7 па 11 сакавіка 2001 года ў Рызе, — гаворыць Міхаіл Афанасьевіч, — пройдзе Нацыянальная выстаўка-продаж «Беларусь-ЭКСПА-2001». Гэта мерапрыемства стане цэнтральнай падзеяй у будучых Днях эканомікі і культуры Рэспублікі Беларусь. Акрамя таго будуць арганізаваны навукова-практычная канферэнцыя, семінары, сустрэчы дзелавых колаў, выступленні мастацкіх калектываў і музычных ансамбляў. Думаю, што гэтыя Дні стануць сапраўдным святам Беларусі ў Латвіі.

Удзел урадавай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь у мерапрыемствах надасць ім высокі дзяржаўны статус і прадаставіць добрую магчымасць для сустрэчы афіцыйных асоб нашых краін.

Нацыянальная выстаўка Рэспублікі Беларусь у Латвіі праводзіцца ў чацвёрты раз. Кожны год мы стараемся паказаць свае навінкі жыхарам Рыгі і ўсёй Латвіі. На гэты раз маштаб выстаўкі будзе ў некалькі разоў большы, чым у мінулыя гады, і ўпершыню пройдзе ў буйнейшым у краінах Балтыі Міжнародным выставачным цэнтры, у павільёне на плошчы больш як 3 тыс. кв. метраў.

*— А колькі нашых прадпрыемстваў пажадалі удзельнічаць у гэтай выстаўцы?*

— Правёўшы работу па арганізацыі выстаўкі ў такім комплексе, мы чакаем, што ў 2001 годзе ў Латвію прыедуць прадстаўнікі прыкладна 150—200 прадпрыемстваў Беларусі. У гэтым годзе хацелася б, каб былі шырэй прадстаўлены рэгіёны і розныя гарады нашай рэспублікі. Суседняй Латвіі і краінам Прыбалтыкі і Скандынавіі вельмі важна паказаць, што ў Беларусі, нават у самым невялікім гарадку, паспяхова развіваюцца многія прадпрыемствы і ў розных галінах.

Для нашых прадпрыемстваў мы пастараемся зрабіць усё магчымае, каб усе яны паехалі з жаданнем зноў вярнуцца ў Латвію да сваіх партнёраў. Запрашэнні наведаць выстаўку адпраўлены 5 тыс. кампаній з Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі.

Думаю, што ў гэтым годзе беларускі тавар будзе «нарасхват». Вельмі ж многім у Латвіі падабаюцца нашы вырабы, і яны імкнуцца іх знайсці на латвійскім рынку, а дастаткова высокая плацежаздольнасць насельніцтва з'яўляецца гарантыяй паспяховага продажу.

Мы плануем, што частку выставачных узораў, якія не будуць прададзены, прадпрыемствы змогуць пакінуць у Беларускім культурна-дзелавым цэнтры ў Рызе, з якім мы пазнаёмім беларускіх удзельнікаў у ходзе выстаўкі. Цэнтр ствараецца як культурны і дзелавы комплекс, дзе будуць створаны ўсе ўмовы для работы беларускай дыяспары, выдання беларускай газеты, рэпетыцый і выступленняў хору, сустрэч таварыства беларусаў Латвіі «Прамень», а таксама для эфектыўнай работы беларускіх прадпрыемстваў у Латвіі. У 2000 годзе ў Беларусі створана 18 кампаній з удзелам латвійскага капіталу са статутным фондам каля 1 млн. дол. ЗША. Думаю, што пасля выстаўкі «БеларусьЭКСПА» гэты напрамак сумеснага супрацоўніцтва яшчэ больш будзе развівацца.

*— Што найбольш цікавіць латышскіх спажыўцоў?*

— Беларусь пастаўляе ў Латвію вырабы з металаў, прадукцыю хімічнай прамысловасці, угнаенні, драўніну і вырабы з яе, трактары і аўтамабілі, сінтэтычныя валокны і ніці, цэмент, соль, будматэрыялы, тканіны, адзенне, абутак, халадзільнікі і тэлевізары і яшчэ вельмі шмат розных прамысловых і спажывецкіх вырабаў.

УСЁ ПРА ЎСЁ

## Ці шкодны для вачэй тэлевізар?

**Амерыканскія медыкі лічаць міфам той факт, што тэлевізар можа выклікаць дэфекты вачэй. Але пры гэтым раяць прытрымлівацца шэрагу правілаў пры праглядзе тэлепраграм.**

- Глядзець тэлевізар трэба толькі пры нармальным асвятленні пакоя. Рэзкі кантраст паміж цёмным пакоем і ярка асвечаным экранам тэлевізара вачам не дапамагае. А занадта яркі свет у пакоі размывае відарыс на экране.
- Побач з тэлевізарам не павінны размяшчацца яркія лямпы і вокны, яны могуць ствараць на экране блікі. Пры праглядзе перадач вы будзеце напружваць вочы.
- Калі вымераць шырыню экрана і памножыць яе на пяць, то атрымаеце адлегласць, якая павінна быць паміж вашымі вачамі і тэлевізарам.
- Экран павінен размяшчацца на ўзроўні вачэй.
- Пры праглядзе тэлевізара старайцеся рабіць паўзы, не глядзець на экран. Гэта дасць вачам адпачынак і здыме іх стомленасць.
- Тэлевізар павінен быць добра наладжаны на рэзкасць, яркасць і кантрастнасць паказу. Малюнак на экране не павінен дрыжэць і «плаваць». Любое з гэтых парушэнняў перанапружвае вочы і прыводзіць да галаўнога болю.

Усе правілы за выключэннем апошняга лёгка выконваць. На жаль, не кожны можа дазволіць сабе купіць сучасны высокакласны тэлевізар, многія яшчэ ўглядваюцца ў цьмяныя дрыжачыя экраны, на якіх адлюстраванне не столькі бачна, колькі ўгадваецца.

Але і новы сучасны тэлевізар не заўсёды здольны забяспечыць якасць перадач з-за дрэннай антэны, няякасных відэакасет і іншых прычын.

## Колькі залатых манет звініць у кішэнях заходніх знакамітасцяў?

Найбольшымі заробкамі ад канцэртных выступленняў у 2000 годзе можа пахваліцца Ціна Тэрнер — 80 мільёнаў долараў. На другім месцы бой-група N'Sync — 76 мільёнаў. Ветэраны з Kiss у сваім развітальным турне зарабілі «ўсяго» 62 мільёны долараў. А вядомыя выканаўцы з «Металікі» аказаліся на дзевятым месцы з «мізэрным» паказчыкам у 42 мільёны.

## 10 буйнейшых навуковых дасягненняў 2000 года

Навукова-папулярны часопіс Science апублікаваў спіс дзесяці буйнейшых навуковых дасягненняў 2000 года. Спіс узначаліла, нягледзячы на шматлікія спрэчкі, самае апошняе адкрыццё гэтага года — стварэнне поўнай карты чалавечага генома. Далей паследавала менш вядомае адкрыццё, якое паказала, што галоўную ролю ў клетках іграюць малекулы РНК, а не ДНК.

У дзесятку лепшых адкрыццяў таксама ўвайшлі:

находка ў Грузіі акамянеласцяў чалавекападобнай істоты, якая жыла 1,7 млн. гадоў таму;

стварэнне першага арганічнага лазера;

выяўленне донных адкладанняў старажытных марсіянскіх мораў;

прарывы ў разуменні ролі гарманальных рэцэптараў у чалавечым арганізме, што дазволіла лепш зразумець абмен рэчываў і перадумовы ўзнікнення шэрагу страшных захворванняў;

унікальны па дакладнасці манеўр касмічнай станцыі NEAR Shoemaker паблізу астэроіда Eros.

Таксама ў спіс былі ўключаны і іншыя адкрыцці, больш спецыфічныя і спецыялізаваныя.

**Падрыхтавала да друку Вікторыя КЛЯНОВІК.**

РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

# ...злавіць дачнага злодзея

У нашым садова-агародным таварыстве «Паляна», што ў Гомельскім раёне, крадзяжы з дачных будынкаў не перапыняюцца ўжо некалькі гадоў. Нават нягледзячы на тое, што яны ахоўваліся нанятым вартаўніком, ад якога на агульным сходзе давялося адмовіцца, бо асобнымі начамі ён носа туды не паказваў: баяўся, што зладзеі, якіх развялася цэлая процьма, яшчэ рэбры палічаць. А спужаць іх не спужаеш, бо сцерагчы дачы з ружжом не дазваляецца.

За два тыдні да Новага года зладзеі залезлі ў дзве пабудовы, а ў навагоднюю ноч — ажно ў шэсць. У маім доме, напрыклад, узламалі тры замкі, забралі сякія-такія рэчы і на трэць апаражнілі 20-літровую бутлю самаробнага вінаграднага віна. Выкліканыя работнікі міліцыі зрабілі сваю справу: склалі пратаколы, знялі адбіткі слядоў і сказалі, што будуць зладзеяў шукаць. У нас жа, пацярпеўшых, засталося такое адчуванне, што зладзеі наведаюцца сюды яшчэ раз, бо іх будзе прыцягваць наяўнасць недапітага віна ў спадзяванні на тое, што гаспадар яшчэ не ведае аб крадзяжы: выхадны ж, калі ён прыедзе?

Таму і было вырашана сваімі сіламі арганізаваць у хаце начную засаду і, хаця гэта ў пэўнай ступені справа рызыкоўная, злавіць таго злодзея. Але дарэмна: ні ў наступную ноч, ні ў іншыя ліхадзей (ці ліхадзеі) на дачы не з'явіўся. Але ў ноч на Вадохрышча, калі ўжо засада была знята, зноў быў абрабаваны мой і суседні дом, а спробы залезці яшчэ ў два дамы закончыліся няўдачай, бо перашкодзілі жалезныя рашоткі. Зноў выклікалі міліцыю, якая заначыла: зладзеі сталі вельмі нахабнымі.

Мы ж, дамовіўшыся з участковым міліцыянерам, вырашылі ўжо не знаходзіцца ў тым ці іншым доме, а абыходзіць ноччу і свае, і суседнія дачы звонку, прыслухоўваючыся да таго, ці не стукне там што-небудзь. У гэты ж час на прыпынку цягніка дзяжурылі два міліцыянеры: а можа нейкі бомж будзе цягнуць сюды нарабаванае... Толькі і гэта наша задума поспехам не ўвянчалася: зладзеі, відаць, былі не лыкам шытыя, з багатай злачыннай практыкай. Яны, напэўна, ці то «ляглі на дно», ці то перабазіраваліся на іншыя садова-агародныя таварыствы.

А я, атрымаўшы афіцыйны адказ з Гомельскага РАУС аб тым, што выявіць зламыснікаў, якія ўчынілі крадзеж з майго дачнага доміка, не ўдалося і што далейшая работа па гэтаму факту даручана аддзелу крымінальнага вышуку, вырашыў сустрэцца з камандзірам узвода райаддзела міліцыі па ахове аграпрамысловага комплексу і прафілактыцы крадзяжоў з садова-агародных таварыстваў раёна Віталем Пакармяхам. Ён расказаў аб тым, што ўзвод быў створаны ў ліпені мінулага года: жыццё прымусіла пайсці на такі крок, і ім ва ўзаемадзеянні з участковымі інспектарамі ўжо раскрыта звыш трыццаці дачных крадзяжоў. Размах асобных з іх па-сапраўднаму ўражвае.

Напрыклад, двое грамадзян — Расіі і Украіны (ён і яна), якія былі высаджаны нашымі пагранічнікамі на станцыі Церуха з-за адсутнасці адпаведных дакументаў, на працягу 3-4 сутак, пасяліўшыся ў адным з домікаў суседняга САТ, узламалі замкі ў 16 (!) дачных хатах і абрабавалі іх. Або яшчэ. Буйны «ўлоў» трапіў у рукі ўчастковага інспектара Дзмітрыя Жураўлёва, прапаршчыка Мікалая Фундарэнкі, малодшага сяржанта Сяргея Яраша і радавога Івана Шамкіна, якія выйшлі на след раней судзімага жыхара вёскі Каранёўка і яго памагатага. У хаце першага былі знойдзены тэлевізары, аўтамагнітолы, аўдыёмагнітафоны, шмат іншых рэчаў, украдзеных з 31 (!) дачнага доміка. Быў таксама выпадак, калі двое нягоднікаў з Добрушскага раёна не толькі абрабавалі дачны домік у Гомельскім раёне, але і спалілі яго, за што трапілі на лаву падсудных.

А ці цяжка вывесці дачнага злодзея на чыстую ваду? Вельмі няпроста. Ужо хаця б таму, што вакол Гомеля размешчаны 402 садова-агародныя таварыствы з больш як 38 тысячамі дамоў і катэджаў, а ва ўзводзе ўсяго 30 чалавек. Вось і падлічыце, колькі на аднаго з іх і ўчастковых інспектараў прыпадае тых САТаў. Гэта па-першае. Па-другое, з пяці (згодна са штатным раскладам) аўтамабіляў узводу выдзелена пакуль толькі два. Апрача таго, не хапае бензіну. Так, работнікі міліцыі і рэйды па садова-агародных таварыствах праводзяць, і начныя засады наладжваюць, аднак рэдка калі праходзяць суткі, каб на дачах, асабліва ў асенне-зімовы перыяд, не ўчыняліся крадзяжы.

Вядома, іншы раз дачнікі самі арганізоўваюць дзяжурствы, дзе-нідзе ёсць нанятыя вартаўнікі. У пераважнай жа большасці гэтага няма, бо там палічылі, што жаданага эфекту ўказаныя меры не дадуць. Апрача таго, дзе-нідзе выйсці на гарачы след зламыснікаў не ўдаецца з-за адсутнасці там тэлефонаў, дзякуючы чаму можна было б аператыўна дазваніцца да міліцыі.

...Наведванне нашага дачнага кааператыва ў мінулыя выхадныя паказала, што туды зноў нанеслі візіт зладзеі. На гэты раз яны «рэвізавалі» будкі і хлеўчыкі. Віталь Пакармяха выказаў меркаванне, што яны шукалі каляровы метал. Дачныя зламыснікі па-ранейшаму арудуюць. І не толькі на Гомельшчыне...

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

**«ГАРАЧЫЯ» ТЭЛЕФОНЫ «ЗВЯЗДЫ»: 268-27-41, 268-27-57.**

## Назвы спецыялізацый у дыпломы аб адукацыі не ўносяцца

*Да нас ў рэдакцыю патэлефанавалі* **бацькі студэнтаў Брэсцкага тэхнікума чыгуначнага транспарту.** *Нашых чытачоў хвалююць тыя абставіны, што ў дыпломах іх дзяцей будзе запісана, што яны навучаліся па спецыяльнасці «арганізацыя перагрузачных работ». Амаль тры гады таму, калі дзеці паступалі ў тэхнікум вучыцца, у іх была спецыялізацыя «арганізацыя грузавой і камерцыйнай работы». Вучэбны план за гады навучання не скарачаўся. Але цяпер у дыпломе для «камерцыйнай работы» месца не знайшлося. У сувязі з гэтым чытачы пытаюцца, чаму ў дыпломах не будзе адлюстравана, што дзеці навучаліся ў тым ліку і камерцыйнай рабоце.*

Як растлумачыла нашай рэдакцыі кіраўніцтва Брэсцкага чыгуначнага тэхнікуму, калісьці студэнты, аб якіх ідзе размова ў скарзе, паступалі вучыцца на спецыяльнасць «арганізацыя перагрузачных работ на транспарце», дзе была дадатковая спецыялізацыя «арганізацыя грузавой і камерцыйнай работы на чыгуначным транспарце». Затым у назву спецыяльнасці дадалі слова «чыгуначны» транспарт і неабходнасць у спецыялізацыі, дзе раней таксама было слова «чыгуначны», адпала сама па сабе. Хаця вучэбныя планы і сапраўды не пераглядаліся.

Сёння студэнты патрабуюць, каб ім у дыплом унеслі не назву спецыяльнасці, а назву спецыялізацыі, у якой ёсць слова «камерцыйная». Але ў дыпломы ніколі не ўносіцца назва спецыялізацый.

У працэсе навучання студэнтам могуць выкладацца па спецыялізацыі 3-4 прадмета. Няўжо іх усе ўносіць у назву будучай спецыяльнасці? Тым больш, што ў класіфікатары спецыяльнасцяў і тарыфікацыйнай сетцы такой спецыяльнасці, аб якой яны просяць, проста няма. У дыпломах, выдадзеных пасля заканчэння тэхнікума, будзе значыцца толькі спецыяльнасць «арганізацыя перагрузачных работ на чыгуначным транспарце».

У тым, што дзеянні кіраўніцтва Брэсцкага чыгуначнага тэхнікума цалкам правамоцныя, нам пацвердзілі і ва Упраўленні вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Міністэрства адукацыі РБ.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### ПРАДАЕЦЦА

**Рухавік да л/а «Гольф-2».** Тэл. у Івацэвічах 3-25-10.
**Дойная каза і чатыры козачкі** ўзросту 1 месяц. Тэл. у пас. Ждановічы 509-55-70.
Тэрмінова, **дом у г. п. Урэчча** Любанскага раёна. Тэл. у Любані 5-13-60.
**«Масквіч-2140» 1977 г. в.,** новыя колы, новая АКБ, 300 у.а. Тэл. у Лідзе 9-72-68.
**Кватэра 3-пакаёвая ў доме,** які будуецца ў г. Мінску, 2 паверх, цагляны дом па вул. Маякоўскага. Тэл. у Мінску 230-46-07.

### ПОГЛЯД

## Суд можа разбудзіць ...

**Днямі ў Канстытуцыйным судзе краіны пачаліся слуханні па новай справе. Суддзі павінны вырашыць, як адпавядае захаванню правоў чалавека і наколькі законным з'яўляецца палажэнне, паводле якога бухгалтэрыі суб'ектаў гаспадарання аўтаматычна адлічваюць ад заробку працаўнікоў — членаў прафсаюзаў — сумы ўзносаў у гэтыя грамадскія аб'яднанні. Маўляў, такім чынам, грошы чалавека адлічваюцца без яго ведама і згоды.**

Нягледзячы на тое, што падобная практыка склалася на працягу дзесяцігоддзяў, сёння з пачаткам судовага разбору яна пастаўлена пад сумненне. Альтэрнатывай існуючай сістэмы можа быць парадак, пры якім працаўнік будзе самастойна плаціць узносы прафсаюзнай арганізацыі праз фінансавыя ўстановы. Так, да канчатковага рашэння суддзяў яшчэ далёка, але пра магчымыя наступствы ад ініцыіравання гэтай справы можна разважаць ужо сёння.

Найперш звяртае на сябе ўвагу тое, што разгляд справы нейкім дзіўным чынам супаў з падрыхтоўкай прафсаюзамі масавай акцыі пратэсту, запланаванай на 14 лютага, дзе галоўным патрабаваннем будзе павышэнне зарплаты. А з другога боку, справа была ініцыіравана пасля таго, як кіраўнік Федэрацыі прафсаюзаў Уладзімір Ганчарык пачаў разглядацца пэўнымі сіламі як магчымы альтэрнатыўны кандыдат у прэзідэнты на маючых адбыцца выбарах. Такім чынам, знешне ўсё выглядае як прэвентыўныя меры на некаторыя магчымыя дзеянні прафсаюзаў.

Але гэта дапушчэнні з галіны вялікай палітыкі, таму пяройдзем бліжэй да тэмы размовы. Калі зайсці на любы буйны завод і спытаць рабочага каля станка, куды ідуць яго прафсаюзныя ўзносы, ён, напэўна, пацісне плячыма. А калі задаць яму яшчэ некалькі «празрыстых» пытанняў (накшталт, калі ён апошні раз ездзіў у санаторый ці што атрымліваў ад прафсаюза?), то ўвогуле можна настроіць чалавека за станком супраць сістэмы прафсаюзаў.

Так, можна. А калі сфармуляваць пытанні інакш? Напрыклад, спытаць, ці атрымліваюць яго дзеці падарункі на Новы год, што падарылі суседу Івану на юбілей, за якія грошы куплялі вянок на пахаванне ветэрана Пятра Пятровіча?.. Ды і пра той жа санаторый спытаць: а ці падаваў ён заяўку ў прафсаюзны камітэт? Хутчэй за ўсё наш рабочы адкажа, што не падаваў. Маўляў, самі разумееце, калі туды ездзіць — падчас водпуску дача, сям'я, дзеці... Ды і трэба прызнаць, што пры сённяшніх заробках не кожны здольны заплаціць нават 10—15 працэнтаў ад кошту пуцёўкі.

На самай справе санаторыі ды прафілакторыі — асобная тэма для разважанняў. Не будзем паглыбляцца ў яе, але засяродзім увагу толькі на адным канкрэтным прыкладзе. Каб лепш зразумець сітуацыю. Уявім, што кошт пуцёўкі ў сярэднім складае 280 тысяч рублёў (нядаўна сам цікавіўся. — **Аўт**.), а заробак рабочага — 80 тысяч. Вось і атрымліваецца, што пры падобнай зарплаце той жа рабочы павінен адлічваць прафсаюзу па аднаму працэнту ад свайго заробку на працягу амаль 30 гадоў, каб цалкам пакрыць кошт пуцёўкі. Зразумела, што ў такіх умовах штогод кожны працаўнік ў санаторыі ездзіць не будзе.

На жаль, савецкая сістэма з яе прынцыпам утрыманства моцна змяніла псіхалогію нашых людзей. Нават прафсаюзы і тыя разглядаюцца звычайным працаўніком у першую чаргу як нейкая дадатковая крыніца льгот, выгод і падарункаў. У людзей яшчэ не выпрацавалася разуменне таго, што найпершая задача прафсаюзаў — абарона інтарэсаў працаўнікоў. У нас жа пакрыўджаны найперш бяжыць шукаць праўду не да старшыні прафкама і сваіх калег па арганізацыі, а ў тую ж адміністрацыю завода, якая яго і пакрыўдзіла.

Тым часам ва ўсім свеце прафсаюзы — гэта аб'яднаная сіла, якая абараняе правы рабочага ці служачага перад наймальнікам ці работадаўцам. У нас жа 80 працэнтаў прадпрыемстваў маюць дзяржаўную форму ўласнасці. А гэта азначае, што работадаўцам і наймальнікам для большасці грамадзян па вялікім рахунку з'яўляецца дзяржава. Вось і атрымліваецца, што ў беларускім варыянце рабочыя і чыноўнікі з урада — гэта па сваёй сутнасці антыподы, паміж якімі прафсаюзы павінны выступаць трэцяй сілай. Гэтай звычайнай ісціны тая ж большасць працоўнага люду пакуль не ўсведамляе.

Але ўявім, што рашэнне Канстытуцыйнага суда будзе станоўчым. У такім разе прафсаюзны рух на Беларусі перажыве сапраўды рэвалюцыйныя змяненні.

Упэўнены, што значная колькасць людзей выйдзе з так званых афіцыйных прафсаюзаў гэтак жа аўтаматычна, як туды трапіла пасля распаду агульнай савецкай «школы камунізму» і стварэння на яе аснове беларускіх прафсаюзных аб'яднанняў. Так, большасць проста не будзе хадзіць у касу ці на пошту, каб штомесяц пералічваць нейкія «капейкі» дзеля невядомай мэты і сумніўнай выгады.

Не стане гэтых 4 мільёнаў членаў прафсаюзаў — баласт патоне, а застануцца толькі свядомыя. Прычым многія з іх пяройдуць у альтэрнатыўныя аб'яднанні — такія як Свабодны прафсаюз ці Незалежны прафсаюз гарнякоў. Апошнія фарміраваліся з канкрэтнай мэтай — арганізаванага адстойвання правоў рабочага чалавека. І такім чынам з сённяшніх афіцыйных прафсаюзаў, якія пакуль больш нагадваюць (прабачце за параўнанне) бяскрыўднага і лянівага сабаку сенбернара (ён выклікае павагу хіба толькі сваімі унушальнымі памерамі), новыя прафсаюзы могуць ператварыцца ў маленькага, але вельмі ўедлівага і куслівага ягдт-тэр'ера. А ён ужо можа наймальнікам спуску не даць.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### ПІСЬМО З КАМЕНТАРЫЕМ

## *Ці пазбавяцца калі спажыўцы «шкляных» чэргаў?*

**У рэдакцыю прыйшоў ліст ад мінчанкі Рымы Паўлаўны Рамашкінай. Праблема, якую ўзнімае ў ім жанчына, на першы погляд падаецца даволі лакальнай і не вартай вынясення праз рэспубліканскую газету на абмеркаванне такой шырокай аўдыторыі. Між іншым, пытанню нашай чытачкі — ужо не першы год і датычыць яно ў большай ці меншай ступені як жыхароў сталіцы, так і іншых населеных пунктаў краіны (магчыма, апошніх нават яшчэ больш). Апошнім часам праблема толькі абвастрылася (у чарговы раз), аб чым і сведчыць ліст Рымы Паўлаўны.**

«Мне 68 гадоў. Хадзіць далёка вельмі цяжка. У мяне праблемы са здачай шклатары, хаця я жыву побач з прыёмным пунктам, які размешчаны на Партызанскім праспекце ў доме № 48а. Гэты прыёмны пункт працуе ад АП «Белбакалея». Графік работы яго — з 10 да 19 гадзін, але рэальна ён працуе з 11 да 14 гадзін, ды і то не кожны дзень. Адказ адзін: «Няма тары» ці «Няма ўмоў для працы». Пераканаўча просім вас дапамагчы ўсім жыхарам нашага раёна ў вырашэнні праблемы здачы шклатары, за якую мы аддалі свае грошы».

Думаем, пад гэтымі словамі маглі б падпісацца жыхары не толькі гэтага мікрараёна. Як ужо гаварылася вышэй, апошнім часам здача пустой тары ператварылася для мінчан у суцэльныя пакуты. Гэта велізарныя чэргі яшчэ да адкрыцця прыёмных пунктаў, усё тыя ж адказы «Няма тары», прынамсі, у памянёным Заводскім раёне. Словам, усё як заўсёды, аб чым газета на працягу апошніх гадоў пяці ўжо шмат разоў пісала, у тым ліку і па просьбах нашых чытачоў.

У якасці афіцыйных адказаў мы чулі наступныя варыянты тлумачэння сітуацыі: сапраўды няма тары, бо ўсе прыёмныя пункты Мінска перададзены бліжэйшым магазінам і цалкам ад іх залежаць — колькі скрынак напояў у магазіне прададуць, столькі ж потым перададуць у прыёмны пункт для іх чарговага «напаўнення». Адначасова залогавы кошт шклатары павялічваецца, спажыўцоў прымушалі раней самастойна сартаваць бутэлькі ў залежнасці ад колеру шкла, змываць наклейкі, словам, прымушалі людзей рабіць шмат дадатковай працы, не прапануючы ўзамен галоўнага — добра наладжанага працэсу вяртання грошай.

Ці ёсць выйсце з сітуацыі? Магчыма, трэба ўвогуле адмяніць залогавы кошт на шклатару? Ці ўсё ж выкупіць яе ў насельніцтва ўсю — няхай нават і па меншых цэнах на ўмовах нестандартнай тары ці адбракаванай? І потым наладзіць вытворчасць арыгінальных бутэлек, што стане заслонай на шляху ўвозу тары з той жа Расіі? Напрыклад, чэхі адзін час разлівалі піва ў бутэлькі, як у нас, цяпер жа ў іх зусім іншыя, адмысловыя бутэлькі. Так, любы з гэтых праектаў можа стаць непасільным. Але за вырашэнне праблемы рана ці позна ўсё роўна трэба брацца.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



***«Чатыры» — рэдкая ацэнка для прагнай да ведаў дзевяцікласніцы гімназіі № 1 г. Брэста Волі Куксы. На раённых алімпіядах па матэматыцы і хіміі яна займала другое і трэцяе месцы. Узнагароджана дыпломам 1-й ступені за навуковую работу па гісторыі Беларусі. Воля добра валодае англійскай мовай, што дазволіла ёй пабываць па культурнаму абмену ў Англіі. А нядаўна гэтая сімпатычная дзяўчына стала пераможцай абласной алімпіяды па беларускай мове.***

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**

## Клятва ў цытадэлі над Бугам

Амаль 60 гадоў таму на працягу месяца вёў няроўную барацьбу з гітлераўцамі нешматлікі гарнізон Брэсцкай крэпасці. Прадэманстраваўшы дзівосную стойкасць, непахісную мужнасць і бяспрыкладны гераізм, абаронцы цытадэлі адбівалі атакі цэлай дывізіі праціўніка, падтрымліваемай авіяцыяй і цяжкай артылерыяй. Фронт знаходзіўся ўжо пад Смаленскам, а ў тыле фашыстаў у Брэсцкай крэпасці яшчэ працягваўся бой...

Удзел у рытуале прыняцця ваеннай прысягі стаў добрай традыцыяй для кіруючага саставу Узброеных Сіл нашай дзяржавы. На гэты раз міністр абароны генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў выбраў Брэсцкі гарнізон. Прыбыўшы сюды загадзя, ён пабываў у 115-й зенітна-ракетнай брыгадзе, якой камандуе падпалкоўнік Сяргей Лемяшэўскі. Кіраўнік ваеннага ведамства пабываў на камандным пункце злучэння і ў адным з зенітна-ракетных дывізіёнаў. Баявая работа разлікаў, нясенне ўсіх відаў службы, забяспечанасць ракетчыкаў усім неабходным для жыццядзейнасці і выканання пастаўленых задач, гутаркі з асабовым саставам былі ў цэнтры ўвагі візіту напярэдадні прыняцця прысягі.

Аддаць даніну светлай памяці абаронцам цытадэлі над Бугам прыйшлі ў апошнюю нядзелю студзеня маладыя салдаты. Свяшчэнную клятву на зямлі, шчодра палітай крывёй сваіх дзядоў і прадзедаў, далі больш за 800 навабранцаў. У гэты ж дзень каля 12 тысяч маладых салдат у розных кутках Беларусі таксама вымавілі свяшчэнныя словы клятвы на вернасць свайму народу.

**Леанід ПРЫШЧЭПА, прэс-служба Міністэрства абароны.**

### БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

## Аграрная ці індустрыяльная?

**Сапраўды, па якіх паказчыках вызначыць, якой з'яўляецца краіна: па колькасці заводаў і калгасаў, па колькасці гарадскога і вясковага насельніцтва, ці па памеру таго дабрабыту, які ствараецца ў сельскагаспадарчай і прамысловай галінах? Напэўна, апошняя акалічнасць з'яўляецца адной з самых важных пры вызначэнні эканамічнага партрэта той ці іншай краіны.**

Паводле даных даведніка «The world factbook, 1999», вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі ў Беларусі ў 1997 годзе складала 20 працэнтаў ад памеру валавога ўнутранага прадукту (ВУП). У той жа час у прамысловасці ствараліся 43 працэнты нацыянальнага багацця краіны, а астатнія 37 працэнтаў прыпадалі на сферу абслугоўвання.

Такім чынам, наша краіна істотна адрознівалася ад іншых дзяржаў сваімі паказчыкамі. У нас адзін з самых высокіх у Еўропе ўзроўняў удзельнай вагі ў аб'ёме ВУП як аграрнага, так і індустрыяльнага сектараў, і адзін з самых нізкіх — галіны сервісу. Праўда, падобныя рысы характэрныя і для іншых рэспублік былога СССР, становішча ў якіх нязначна адрозніваецца ад сітуацыі ў Беларусі.

А вось у заходнееўрапейскіх дзяржавах, якія мы называем індустрыяльна развітымі, як ні парадаксальна, за кошт прамысловай галіны ствараецца толькі каля трэці нацыянальнага багацця. Асноўную ж частку ВУП складаюць вынікі дзейнасці галіны абслугоўвання: ад 60 да 70 працэнтаў. І зноў жа, як ні дзіўна, валавы прадукт, выраблены ў сельскай гаспадарцы, вельмі нізкі, напрыклад у Германіі ён складае толькі 1,1, а ў Бельгіі — 1,9 працэнта ад аб'ёму ВУП. Нягледзячы на гэта, названыя краіны не толькі кормяць сябе, але і значную частку прадуктаў харчавання экспартуюць у іншыя дзяржавы. Вось і атрымліваецца, што ўся справа, напэўна, у эфектыўнасці дзейнасці той ці іншай галіны.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### ДОЛЯ РОЗНЫХ ГАЛІН У АБ'ЁМЕ ВУП, 1997 год



*Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь*
*Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь*
*Савету Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь*

# ПАСЛАННЕ
## Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь
# Аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 2000 годзе

***Рашэнне Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь***

*22 студзеня 2001 г.* *г. Мінск*

**Аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 2000 годзе**

Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь у складзе старшынствуючага — Старшыні Канстытуцыйнага Суда Васілевіча Р.А., намесніка Старшыні Суда Марыскіна А.У., суддзяў Бойка Т.С., Вараб'я Г.А., Кенік К.І., Падгрушы В.В., Саркісавай Э.А., Філіпчык Р.І., Цікавенкі А.Г., Шабайлава В.І., Шукліна В.З., Шышко Г.Б., разгледзеўшы пытанне аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь, кіруючыся артыкулам 44 Закона «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь» і артыкулам 80 Рэгламенту Канстытуцыйнага Суда,

**ВЫРАШЫЎ:**

1. Прыняць Пасланне Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь Прэзідэнту і палатам Парламента Рэспублікі Беларусь «Аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 2000 годзе» (тэкст дадаецца).

2. Апублікаваць Пасланне «Аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 2000 годзе» ў газетах «Звязда» і «Народная газета» ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця, а таксама ў часопісе «Веснік Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь».

**Старшынствуючы — Старшыня Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь Р.А. ВАСІЛЕВІЧ.**

*№ Р-105/2001*

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь вызначае нашу дзяржаву як дэмакратычную сацыяльную прававую (артыкул 1). Гэта канстытуцыйная норма абавязвае дзяржаўныя органы праводзіць актыўную палітыку па стабілізацыі эканомікі, рэгуляванню эканамічнай дзейнасці ў інтарэсах чалавека і грамадства, прыцягненню грамадзян да кіравання справамі грамадства і дзяржавы, рэалізацыі прынцыпу ўзаемнай адказнасці дзяржавы і грамадзяніна. Такая дзейнасць накіравана на гарантаванне правоў і свабод чалавека, які з'яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы (артыкул 2 Канстытуцыі).

Асноўнай і пастаяннай задачай беларускай дзяржавы, як і любой іншай дэмакратычнай сацыяльнай і прававой дзяржавы, з'яўляецца забеспячэнне канстытуцыйных правоў і свабод кожнага чалавека і грамадзяніна. Вырашэнню ўказанай задачы садзейнічае своечасовае прыняцце і абнаўленне актаў заканадаўства, фарміраванне правапрымяняльнай практыкі, якая адпавядае духу і літары Канстытуцыі, патрабаванням сучаснага развіцця дзяржавы і грамадства. Толькі за апошнія чатыры гады ў рэспубліцы істотна абноўлена бягучае заканадаўства, прынята 18 кодэксаў і больш 400 законаў, накіраваных на рэгуляванне найбольш важных грамадскіх адносін і рэалізацыю канстытуцыйных правоў і свабод.

У гэтай сувязі роля канстытуцыйнага кантролю ў наступіўшым XXI стагоддзі значна павышаецца, паколькі пастаянна ўзнікаючыя ўсё новыя патрэбнасці і тэндэнцыі грамадскага развіцця абумоўліваюць неабходнасць адэкватнага і своечасовага ўдасканальвання прававой сістэмы, прад'яўляюць дадатковыя патрабаванні да дзяржаўных інстытутаў, прызваных ствараць умовы для поўнага забеспячэння правоў і свабод кожнага чалавека і грамадзяніна і належнага выканання ўскладзеных на іх абавязкаў.

У дэмакратычнай прававой дзяржаве дзейнасць Канстытуцыйнага Суда дазваляе цывілізаваным шляхам устараняць недахопы заканадаўства, вырашаць выключна прававымі сродкамі канфліктныя сітуацыі, якія ўзнікаюць паміж дзяржаўнымі органамі, грамадскімі аб'яднаннямі, службовымі асобамі і грамадзянамі, аднаўляць вяршэнства права і справядлівасць. Гэта адпавядае інтарэсам як грамадзян, так і дзяржавы і грамадства ў цэлым.

**I**

У адпаведнасці з часткай першай артыкула 116 Канстытуцыі кантроль за канстытуцыйнасцю нарматыўных актаў у дзяржаве ўскладзены на Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь. Ажыццяўленне Канстытуцыйным Судом функцыі канстытуцыйнага кантролю з'яўляецца неад'емнай умовай фарміравання беларускай дзяржавы як дэмакратычнай сацыяльнай і прававой. Выкананне Канстытуцыйным Судом гэтага абавязку ажыццяўлялася перш за ўсё шляхам разгляду паступіўшых матэрыялаў, у тым ліку асабістых і калектыўных зваротаў грамадзян, на падставе артыкулаў 40, 116, 122 і іншых артыкулаў Канстытуцыі. Гэтыя матэрыялы ў адпаведнасці з артыкулам 44 Закона «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь» з'явіліся асновай для ацэнкі стану канстытуцыйнай законнасці ў 2000 годзе.

Разгляд спраў у Канстытуцыйным Судзе абумоўлены супярэчнасцямі ў заканадаўстве, у тым ліку ўзнікаючымі па аб'ектыўных прычынах, немагчымасцю ў многіх выпадках правапрымяняльнікамі адназначна вызначыць, ці адпавядаюць нарматыўныя акты Канстытуцыі. Канстытуцыйныя правы і гарантыі іх забеспячэння не заўсёды атрымліваюць у бягучым заканадаўстве неабходнае развіццё і рэалізацыю на практыцы. Нярэдка нарматыўныя акты, якія прымаюцца ў выкананне акта больш высокага ўзроўню, не толькі не адпавядаюць зместу яго норм, але і выходзяць за межы прадмета дапушчальнага рэгулявання. Канстытуцыйны Суд адзначае, што па справах, разгледжаных за мінулы перыяд, неканстытуцыйнымі прызнаваліся нарматыўныя акты, прынятыя не толькі да ўвядзення ў дзеянне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, але і пасля яе прыняцця.

Толькі старанны і ўсебаковы аналіз нарматыўных актаў і практыкі іх прымянення, што праводзіцца ў Канстытуцыйным Судзе, дазваляе правільна вырашаць канстытуцыйную спрэчку з улікам патрабаванняў Канстытуцыі і агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права, прыярытэт якіх прызнае Рэспубліка Беларусь (артыкул 8 Канстытуцыі). Вызначаючы адпаведнасць правяраемых нарматыўных актаў Канстытуцыі, Канстытуцыйны Суд выкладаў сваю прававую пазіцыю па спрэчных пытаннях і тым самым усталёўваў канстытуцыйна-прававыя прынцыпы, якія маюць асноватворнае значэнне для праватворчай дзейнасці і правапрымяняльнай практыкі.

Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь у 2000 годзе прыняў 28 рашэнняў, якія былі накіраваны на абарону інтарэсаў як многіх тысяч грамадзян і суб'ектаў гаспадарання, так і дзяржавы і грамадства.

Пры вынясенні рашэнняў Канстытуцыйны Суд зыходзіў з неабходнасці забеспячэння замацаванага ў артыкуле 137 Канстытуцыі вяршэнства яе норм і іх прамога дзеяння. Вопыт сведчыць аб тым, што не ўсе дзяржаўныя органы і службовыя асобы правільна ўспрымаюць канстытуцыйныя патрабаванні аб найвышэйшай юрыдычнай сіле Асноўнага Закона, што адмоўна адбіваецца на фарміраванні адпаведнай правапрымяняльнай практыкі.

Прадметам штогадовага разгляду Канстытуцыйнага Суда становяцца акты падатковага заканадаўства. Важнасць разгляду гэтай катэгорыі спраў абумоўлена тым, што, з аднаго боку, нормамі падатковага заканадаўства закранаюцца канстытуцыйныя правы і абавязкі грамадзян, з другога — інтарэсы дзяржавы як уласніка цэнтралізаваных грашовых фондаў (бюджэту, дзяржаўных пазабюджэтных фондаў). Асноўнай крыніцай фарміравання дзяржаўных цэнтралізаваных грашовых фондаў з'яўляюцца падаткі, зборы і іншыя абавязковыя плацяжы. Спагнанне ўказаных абавязковых плацяжоў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з падатковым заканадаўствам, якое да гэтага часу не кадыфікавана. У сістэме актаў падатковага заканадаўства значнае месца працягваюць займаць ведамасныя нарматыўныя акты, якімі нярэдка парушаюцца канстытуцыйныя правы, законныя інтарэсы грамадзян і суб'ектаў гаспадарання.

Заключэннем Канстытуцыйнага Суда ад 16 сакавіка 2000 года былі прызнаны неканстытуцыйнымі асобныя палажэнні пункта 8 Метадычных указанняў «Аб парадку вылічэння падатку на дабаўленую вартасць», зацверджаных загадам Дзяржаўнага падатковага камітэта ад 26 красавіка 1999 года, са змяненнямі і дапаўненнямі ад 20 ліпеня 1999 года, якія ўстанаўлівалі спагнанне падатку на дабаўленую вартасць са страт ад аперацый па куплі-продажу замежнай валюты. Канстытуцыйны Суд прызнаў гэтыя нормы не маючымі юрыдычнай сілы з дня прыняцця названых Метадычных указанняў.

У сваім Заключэнні Канстытуцыйны Суд указаў, што ўключэнне палажэнняў, у адпаведнасці з якімі ажыццяўлялася спагнанне падатку на дабаўленую вартасць са страт ад аперацый па куплі-продажу замежнай валюты, у пункт 8 Метадычных указанняў Дзяржаўнага падатковага камітэта супярэчыць Канстытуцыі, не засноўваецца на нормах Закона «Аб падатку на дабаўленую вартасць» і не ўваходзіць у кампетэнцыю Дзяржаўнага падатковага камітэта.

Прававая пазіцыя Канстытуцыйнага Суда грунтавалася на тым, што аб'ект падатку, падаткаабкладаемая база (абкладаемы абарот) з'яўляюцца асноўнымі элементамі падатку і іх вызначэнне адносіцца да паўнамоцтваў дзяржаўных органаў, якія валодаюць правам на ўстанаўленне падаткаў. Згодна з Канстытуцыяй устанаўленне рэспубліканскіх падаткаў адносіцца да кампетэнцыі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (артыкулы 97 і 98).

Заключэннем Канстытуцыйнага Суда ад 16 сакавіка 2000 года былі абаронены канстытуцыйныя правы падаткаплацельшчыкаў. Яно было выканана Дзяржаўным падатковым камітэтам Рэспублікі Беларусь шляхам вяртання з бюджэту незаконна ўтрыманых (спагнаных) сум у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

На абарону канстытуцыйных правоў і абавязкаў грамадзян у сферы падатковых праваадносін было накіравана таксама рашэнне Канстытуцыйнага Суда ад 5 мая 2000 года, у якім быў праведзены аналіз рашэння Магілёўскага гарадскога Савета дэпутатаў ад 18 лютага 2000 года «Аб спагнанні пошліны з юрыдычных асоб за выкарыстанне ў найменні назвы «Магілёў» (і яе вытворных)» на адпаведнасць Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

Згодна з артыкулам 121 Канстытуцыі да выключнай кампетэнцыі мясцовых Саветаў дэпутатаў адносіцца ўстанаўленне ў адпаведнасці з законам мясцовых падаткаў і збораў. Канстытуцыйны Суд лічыць, што ў змест выключнай кампетэнцыі мясцовых Саветаў дэпутатаў па ўстанаўленню мясцовых падаткаў і збораў уключаецца не толькі іх права, але і абавязак дзейнічаць у дакладнай адпаведнасці з законам. На падставе аналізу ўсяго комплексу заканадаўчых актаў па дадзенаму пытанню Канстытуцыйны Суд устанавіў, што ўзгадненне з органамі мясцовага кіравання найменняў прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый з абавязковым адлюстраваннем у іх свайго месцазнаходжання не мае на ўвазе спагнанне якой-небудзь платы і што заканадаўчымі актамі не прадугледжана спагнанне пошліны за выкарыстанне юрыдычнымі асобамі ў сваіх найменнях назвы той адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, дзе яны размешчаны.

Канстытуцыйны Суд прапанаваў Магілёўскаму гарадскому Савету дэпутатаў прывесці сваё рашэнне ў адпаведнасць з дзеючым заканадаўствам. У пэўнай меры яно было ім скарэкціравана рашэннем ад 8 чэрвеня 2000 года.

Рашэннямі мясцовых органаў кіравання і самакіравання і раней парушаліся правы падаткаплацельшчыкаў, аб чым сведчаць вынікі іх разгляду ў Канстытуцыйным Судзе. Адна з прычын такога становішча заключаецца ў тым, што адносіны ў галіне мясцовага падаткаабкладання ў Рэспубліцы Беларусь недастаткова поўна ўрэгуляваны ў заканадаўстве. Канстытуцыйны Суд мяркуе, што існуючыя прабелы ў прававым рэгуляванні мясцовага падаткаабкладання могуць быць ліквідаваны ў Падатковым кодэксе, прыняцце якога плануецца ажыццявіць у 2001 годзе.

Істотным недахопам падатковага заканадаўства з'яўляецца яго няўстойлівасць і супярэчлівасць. У мэтах абароны інтарэсаў суб'ектаў гаспадарання, іншых падаткаабкладальшчыкаў, па меркаванню Канстытуцыйнага Суда, неабходна дабіцца такой сітуацыі, каб падатковае заканадаўства заставалася стабільным па меншай меры на працягу фінансавага (бюджэтнага) года. Змяненні ў падатковае заканадаўства на працягу ўказанага перыяду, якія пагаршаюць прававое становішча падаткаплацельшчыкаў, неабходна ўносіць толькі ў выключных выпадках. Аптымальным з'яўляецца падыход, пры якім аб такіх змяненнях даводзілася б да ведама падаткаплацельшчыкаў загадзя — у тэрмін, што дазваляе звесці да мінімуму магчымыя страты ў сувязі з новым рашэннем заканадаўца.

Прадметам разгляду Канстытуцыйнага Суда была пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27 ліпеня 2000 года № 1154, якой зацверджаны Парадак прадастаўлення і сумíравання працоўных водпускаў. Указаным актам прадугледжана, што дадатковыя водпускі далучаюцца да асноўнага мінімальнага водпуску (пункт 8). Пры гэтым працягласць працоўнага водпуску не можа перавышаць 35 каляндарных дзён. У рашэнні Канстытуцыйнага Суда ад 22 верасня 2000 года «Аб парадку прадастаўлення і сумíравання працоўных водпускаў» адзначана, што палажэнні пункта 8 указанага Парадку не адпавядаюць Закону «Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце», Дэкрэту Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 9 верасня 1997 года № 16 і Дэкрэту Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 ліпеня 1999 года № 29 і не могуць у гэтай сувязі абмяжоўваць сумарную працягласць асноўнага водпуску і дадатковых водпускаў, якія прадугледжаны названымі законам і дэкрэтамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у сілу таго, што яны валодаюць вяршэнствам і дзейнічаюць непасрэдна.

Канстытуцыйны Суд у сваім рашэнні зыходзіў таксама з таго, што дадатковы водпуск за работу ў шкодных умовах працы ўстаноўленай заканадаўствам працягласці павінен прадастаўляцца поўнасцю. Такая пазіцыя Канстытуцыйнага Суда абумоўлена тым, што сярод усіх відаў дадатковых водпускаў водпуск за работу ў шкодных умовах працы займае асобае месца. Яго прадастаўленне накіравана на рэалізацыю канстытуцыйнага права грамадзян не толькі на адпачынак (артыкул 43 Канстытуцыі), але і на ахову здароўя (артыкул 45 Канстытуцыі). Пры сумíраванні такога водпуску з асноўным водпускам іх агульная працягласць у выпадках, прадугледжаных заканадаўчымі і іншымі нарматыўнымі актамі, можа складаць і больш 35 дзён. У мэтах забеспячэння правоў работнікаў на атрыманне дадатковых водпускаў за ненарміраваны рабочы дзень Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь прапанавана разгледзець пытанне аб дапаўненні пункта 6 Парадку прадастаўлення і сумíравання працоўных водпускаў, з тым каб работнікі, занятыя на рабоце няпоўны рабочы тыдзень, але поўны рабочы дзень і вымушаныя ў асобных выпадках выконваць работу звыш нармальнай працягласці рабочага часу, мелі права на дадатковы водпуск за ненарміраваны рабочы дзень прапарцыянальна адпрацаванаму часу. Адзначана супярэчлівасць і неадназначнасць асобных палажэнняў Парадку прадастаўлення і сумíравання працоўных водпускаў (пункты 8, 10, 13 і інш.) і прапанавана Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь прывесці пастанову ад 27 ліпеня 2000 года № 1154 у адпаведнасць з актамі, якія валодаюць больш высокай юрыдычнай сілай, і рашэннем Канстытуцыйнага Суда ад 22 верасня 2000 года. У выкананне рашэння Канстытуцыйнага Суда Урадам 5 студзеня 2001 года прынята пастанова № 10.

У сувязі са шматлікімі зваротамі ў Канстытуцыйны Суд грамадзян, якія патрабавалі праверыць канстытуцыйнасць пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 25 жніўня 1999 года № 1332 «Аб упарадкаванні разлікаў насельніцтва за карыстанне жылымі памяшканнямі і камунальнымі паслугамі» (са змяненнем, унесеным пастановай Савета Міністраў ад 28 красавіка 2000 года № 606), Канстытуцыйны Суд на падставе артыкула 40 і часткі першай артыкула 116 Канстытуцыі ў сваім рашэнні ад 5 верасня 2000 года «Аб плаце за карыстанне жылымі памяшканнямі і тэхнічнае абслугоўванне жылога фонду» прыйшоў да вываду, што ва ўказанай пастанове не ўлічаны ў поўнай меры патрабаванні часткі трэцяй артыкула 51 Жыллёвага кодэкса і артыкула 11 Закона «Аб сумесным домаўладанні». У пастанове Урада насуперак закону быў устаноўлены памер платы ў залежнасці не толькі ад плошчы жылога памяшкання, але і колькасці пражываючых у ім асоб, што прывяло да пэўнай дыспрапорцыі ў аплаце паслуг, якія прадастаўляюцца ўласнікам жылля і наймальнікам жылых памяшканняў.

Канстытуцыйны Суд адзначыў, што ў пастанове Урада не вырашана пытанне аб аплаце дадатковай жылой плошчы, якой карыстаюцца грамадзяне ў адпаведнасці з заканадаўствам, што на практыцы ў шэрагу выпадкаў прывяло да неапраўданага спагнання платы за яе ў павышаным памеры. Па меркаванню Канстытуцыйнага Суда, справядлівым быў бы падыход, пры якім грамадзяне, якія маюць права на дадатковую жылую плошчу, аплачвалі б яе ў тым жа памеры, як і за нарматыўную плошчу жылога памяшкання. Пры ўстанаўленні нарматываў платы за карыстанне жылымі памяшканнямі наймальнікамі і за тэхнічнае абслугоўванне жылых памяшканняў уласнікамі павінен улічвацца прынцып сацыяльнай справядлівасці, перш за ўсё ў адносінах да сацыяльна неабароненых катэгорый грамадзян (пенсіянераў, малазабяспечаных). Такі падыход адпавядаў бы палажэнням артыкула 7 Канстытуцыі, што ўстанаўлівае вяршэнства права, у аснове якога ляжыць прынцып справядлівасці, і артыкула 1 Канстытуцыі, што замацоўвае сацыяльны прававы характар нашай дзяржавы.

Канстытуцыйны Суд адзначыў неправамернасць выкарыстання тэрміну «лішкі жылой плошчы» для ўласнікаў, паколькі заканадаўства прадугледжвае права грамадзян мець ва ўласнасці жылыя памяшканні без абмежавання іх памераў (артыкул 101 Жыллёвага кодэкса).

Зыходзячы з гэтага, Канстытуцыйны Суд рашэннем ад 5 верасня 2000 года прапанаваў адпаведна Нацыянальнаму сходу Рэспублікі Беларусь, Ураду Рэспублікі Беларусь: забяспечыць рэалізацыю артыкула 11 Закона «Аб сумесным домаўладанні», які прадугледжвае, што ўласнікі нерухомай маёмасці сумеснага домаўладання нясуць расходы па ўтрыманню і рамонту агульнай маёмасці прапарцыянальна іх долі ў праве агульнай уласнасці на гэтую маёмасць, выключыўшы пры гэтым існуючыя дыспрапорцыі, выкліканыя ўстаноўленым парадкам павелічэння платы за «залішнюю жылую плошчу»; улічыць канстытуцыйныя палажэнні аб роўнай абароне правоў і законных інтарэсаў грамадзян, у сувязі з чым памер платы ўласнікамі жылых памяшканняў за тэхнічнае абслугоўванне не павінен перавышаць аналагічнай платы наймальнікаў жылых памяшканняў; у пытанні аплаты за карыстанне жылымі памяшканнямі і тэхнічнае абслугоўванне жыллёвага фонду зыходзіць з неабходнасці больш поўнага ўліку прынцыпу сацыяльнай справядлівасці, асабліва ў адносінах да сацыяльна неабароненых катэгорый грамадзян (пенсіянераў, малазабяспечаных); вызначыць парадак і ўмовы больш шырокага давядзення да грамадзян звестак, якія датычацца расходвання сродкаў, атрыманых ад насельніцтва за карыстанне жылымі памяшканнямі і іх тэхнічнае абслугоўванне. Адпаведны праект пастановы Урада дапрацоўваецца.

Прадметам неаднаразовага разгляду ў Канстытуцыйным Судзе былі пытанні, звязаныя з рэалізацыяй канстытуцыйнага права грамадзян на атрыманне юрыдычнай дапамогі, замацаванага ў артыкуле 62 Канстытуцыі.

У рашэнні ад 4 ліпеня 2000 года «Аб некаторых пытаннях, звязаных з аказаннем юрыдычнай дапамогі асуджаным» Канстытуцыйны Суд указаў, што згодна з крымінальна-працэсуальным заканадаўствам юрыдычную дапамогу ў крымінальным працэсе могуць аказваць, акрамя адвакатаў, іншыя асобы (блізкія родныя, законныя прадстаўнікі), на якіх распаўсюджваюцца нормы КПК, што вызначаюць правы і абавязкі абаронцы. Таму асоба, дапушчаная судом у якасці абаронцы падсуднага, мела права аказваць яму юрыдычную дапамогу і ў тым выпадку, калі ён ужо асуджаны па дадзенай справе і адбывае пакаранне ў месцах пазбаўлення волі. У гэтых мэтах абаронца можа мець спатканні з асуджаным з захаваннем Правіл унутранага распарадку папраўчых устаноў, якія рэгулююць парадак прадастаўлення асуджаным сустрэч з адвакатамі.

Паколькі ў Канстытуцыйны Суд працягвалі паступаць звароты і па іншых пытаннях, звязаных з рэалізацыяй права грамадзян на юрыдычную дапамогу, Канстытуцыйны Суд 5 кастрычніка 2000 года прыняў рашэнне «Аб практыцы прымянення рашэнняў Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 2 ліпеня 1999 г. «Аб некаторых пытаннях прадстаўніцтва ў судзе па грамадзянскіх справах», ад 13 снежня 1999 г. «Аб некаторых пытаннях забеспячэння грамадзянам канстытуцыйнага права на атрыманне юрыдычнай дапамогі ў крымінальным працэсе», ад 4 ліпеня 2000 г. «Аб некаторых пытаннях, звязаных з аказаннем юрыдычнай дапамогі асуджаным» у частцы рэалізацыі палажэнняў артыкула 62 Канстытуцыі».

У дадзеным рашэнні Канстытуцыйны Суд зрабіў вывад, што права на юрыдычную дапамогу, прадугледжанае артыкулам 62 Канстытуцыі, якое базіруецца на агульнапрызнаных прынцыпах міжнароднага права, для ажыццяўлення і абароны правоў і свабод грамадзян гарантуецца дзяржавай і забяспечваецца перш за ўсё шляхам аказання кваліфікаванай юрыдычнай дапамогі на прафесіянальнай аснове (адвакатамі або іншымі асобамі, якія маюць права на аказанне юрыдычнай дапамогі).

Разам з тым, грунтуючыся на палажэнні артыкула 62 Канстытуцыі, Канстытуцыйны Суд прызнаў права грамадзян на атрыманне ў любы момант юрыдычнай дапамогі і ад іншых асоб, якія не з'яўляюцца адвакатамі або не маюць

***(Працяг на 6-й стар.)***

# Аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 2000 годзе

*(Працяг. Пачатак на 5-й стар.)*

ліцэнзій на ажыццяўленне дзейнасці па аказанню юрыдычных паслуг. Такое права грамадзяне могуць скарыстаць у любы момант як у крымінальным і грамадзянскім судаводстве, так і пры абароне сваіх правоў у працоўных, жыллёвых, адміністрацыйных, падатковых і іншых праваадносінах. Аднак у гэтых выпадках павінны быць захаваны неабходныя патрабаванні, якія выключаюць сістэматычную дзейнасць па аказанню юрыдычных паслуг і атрыманне ад яе даходаў, калі іншае не прадугледжана заканадаўствам. Такая ж умова павінна быць захавана і пры аказанні юрыдычнай дапамогі па грамадзянска-прававых пытаннях па даверанасці асуджаных, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі.

Ва ўказаным рашэнні Канстытуцыйны Суд пацвердзіў і канкрэтызаваў сваю пазіцыю, выражаную ў раней прынятых рашэннях, што права на атрыманне ў любы момант юрыдычнай дапамогі абаронцы павінна быць забяспечана не толькі абвінавачванаму, падсуднаму, але і падазронаму, у адносінах да якіх выбрана мера стрымання ў выглядзе ўзяцця пад варту; юрыдычную дапамогу ў крымінальным судаводстве могуць аказваць блізкія родныя і законныя прадстаўнікі не толькі абвінавачванага, падсуднага, але і падазронага, выступаючы ў ролі іх абаронцаў. Яны маюць права аказваць юрыдычную дапамогу па дадзенай справе і пасля вынясення прыгавору, у сувязі з чым меці спатканні з асуджанымі, якія адбываюць пакаранне ў месцах пазбаўлення волі.

Зыходзячы з неабходнасці больш поўнага забеспячэння права на юрыдычную дапамогу, прадугледжанага ў артыкуле 62 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародна-прававых актах, Канстытуцыйны Суд прапанаваў дзяржаўным органам у межах іх кампетэнцыі ўнесці неабходныя змяненні ў дзеючае заканадаўства, якія датычацца парадку аказання юрыдычнай дапамогі грамадзянам, у тым ліку шляхам прадстаўніцтва, уключаючы і юрыдычную дапамогу асуджаным, якія адбываюць пакаранне ў месцах пазбаўлення волі.

*Заключэннем* Канстытуцыйнага Суда ад 13 мая 1999 года частка шостая артыкула 209 КПК Рэспублікі Беларусь прызнана не адпавядаючай Канстытуцыі і Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах у той меры, у якой яна не прадугледжвала права на абскарджанне ў суд пастановы аб спыненні крымінальнай справы. З улікам таго, што Канстытуцыйны Суд у раней прынятых заключэннях, пасланнях аб стане канстытуцыйнай законнасці, прапановах праватворчым і правапрымяняючым органам неаднаразова ўказваў на непасрэдны характар дзеяння норм аб праве на судовую абарону, што змяшчаюцца ў артыкуле 60 Канстытуцыі, у дадзеным Заключэнні Канстытуцыйны Суд не вызначаў момант, з якога палажэнні часткі шостай артыкула 209 КПК страчваюць сілу. Паколькі на практыцы сталі ўзнікаць пытанні аб праве абскарджання ў суд пастаноў аб спыненні вядзення па крымінальных справах, якія былі вынесены да прыняцця ўказанага Заключэння, Канстытуцыйны Суд даў тлумачэнне свайму Заключэнню.

У Заключэнні ад 17 красавіка 2000 года «Аб тлумачэнні Заключэння Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 13 мая 1999 года «Аб адпаведнасці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародна-прававым актам часткі шостай артыкула 209 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь» Канстытуцыйны Суд растлумачыў, што ў суд могуць быць абскарджаны пастановы аб спыненні вядзення па крымінальнай справе, калі яны былі вынесены пасля ўступлення ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, гэта значыць з 30 сакавіка 1994 года.

Неабходнасцю забеспячэння і далейшага развіцця канстытуцыйнага прынцыпу роўнасці ўсіх грамадзян перад законам абумоўлена прыняцце Канстытуцыйным Судом рашэння ад 17 лістапада 2000 года «Аб праве на амністыю асуджаных, у адносінах да якіх прыгаворы не ўступілі ў законную сілу ў сувязі з іх касацыйным абскарджаннем (апратэставаннем)».

Звярнуўшы ўвагу на існуючыя ў судовай практыцы факты, калі касацыйныя скаргі асуджаных не разглядаюцца на працягу доўгага часу па акалічнасцях, якія ад іх не залежаць, і з прычыны гэтага прыгаворы ў адносінах да гэтых асоб не ўступаюць у законную сілу на дзень уступлення ў сілу законаў аб амністыі, Канстытуцыйны Суд адзначыў, што ў такіх выпадках указаныя асобы пры вырашэнні пытання аб прымяненні да іх амністыі аказваюцца ў няроўным становішчы ў параўнанні з асобамі, прыгаворы ў адносінах да якіх уступілі ў законную сілу. Пры гэтым парушаецца таксама канстытуцыйнае права грамадзян на касацыйнае абскарджанне прыгавораў, паколькі асобныя асуджаныя не звяртаюцца з касацыйнымі скаргамі толькі дзеля таго, каб скарыстаць права на амністыю.

У сувязі з гэтым Канстытуцыйны Суд указаў, што ёсць падставы для пошуку справядлівага рашэння па пытанню прымянення амністыі да асуджаных, у адносінах да якіх прыгаворы не ўступілі ў законную сілу. Пры прыняцці законаў аб амністыі ў будучым не выключаюцца і іншыя варыянты справядлівага вырашэння дадзенага пытання.

Канстытуцыйны Суд прапанаваў Нацыянальнаму сходу Рэспублікі Беларусь разгледзець пытанне (у тым ліку шляхам тлумачэння) аб распаўсюджанні дзеяння законаў ад 18 студзеня 1999 года «Аб амністыі некаторых катэгорый асоб, якія ўчынілі злачынствы» і ад 14 ліпеня 2000 года «Аб амністыі некаторых катэгорый асоб, якія ўчынілі злачынствы» на асуджаных, у адносінах да якіх прыгаворы не ўступілі ў законную сілу з прычыны таго, што касацыйныя скаргі (пратэсты) па іх справах не разглядаліся на працягу доўгага часу па акалічнасцях, якія не залежаць ад асуджаных. У адказе, які паступіў з Палаты прадстаўнікоў, паведамлена, што пазіцыя Канстытуцыйнага Суда будзе ўлічвацца пры падрыхтоўцы адпаведных законапраектаў. Разумеючы цяжкасці, з якімі прыйшлося б сутыкнуцца, калі б дзеянне названых законаў пасля заканчэння такога працяглага часу пасля іх прыняцця было распаўсюджана на асуджаных, у адносінах да якіх прыгаворы не ўступілі ў законную сілу па акалічнасцях, якія ад іх не залежаць, Канстытуцыйны Суд лічыць, што гэта праблема магла б быць своечасова вырашана пры звароце ў Канстытуцыйны Суд упаўнаважаных органаў і службовых асоб.

Канстытуцыйны Суд у рашэнні ад 26 мая 2000 года «Аб некаторых пытаннях рэалізацыі артыкула 57 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь» прызнаў, што грамадзяне Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці не толькі з Канстытуцыяй, але і з Законам «Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе» (артыкулы 1 і 14) маюць права, у прыватнасці па рэлігійных перакананнях, на замену воінскай службы альтэрнатыўнай.

У адпаведнасці з артыкулам 57 Канстытуцыі парадак праходжання воінскай службы, падставы і ўмовы вызвалення ад воінскай службы або замена яе альтэрнатыўнай вызначаюцца законам. Такім чынам, Асноўны Закон не разглядае воінскую службу ў якасці адзінай і безумоўнай, дапускае магчымасць вызвалення ад воінскай службы або замену яе альтэрнатыўнай.

Згодна з артыкулам 31 Канстытуцыі кожны мае права самастойна вызначаць сваё адносіны да рэлігіі, асабіста або сумесна з іншымі вызнаваць любую рэлігію або не вызнаваць ніякай, выказваць і распаўсюджваць перакананні, звязаныя з адносінамі да рэлігіі, удзельнічаць у адпраўленні рэлігійных культаў, рытуалаў, абрадаў, не забароненых законам.

Вышэйпрыведзеныя нормы нацыянальнага заканадаўства суадносяцца з агульнапрызнанымі прынцыпамі і нормамі міжнароднага права, прыярытэт якіх прызнаецца Рэспублікай Беларусь.

Разгледзеўшы паступіўшыя запыты і матэрыялы з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а таксама ад грамадскага аб'яднання, Канстытуцыйны Суд прыйшоў да вываду, што грамадзяне Рэспублікі Беларусь з прычыны рэлігійных перакананняў часта не маюць магчымасці на практыцы выканаць свой абавязак па абароне Рэспублікі Беларусь, у тым ліку шляхам праходжання альтэрнатыўнай службы. Немагчымасць забеспячэння права на альтэрнатыўную службу тлумачылася некаторымі службовымі асобамі адсутнасцю спецыяльнага закона, што прыводзіла да ўзнікнення канфліктаў паміж грамадзянамі і дзяржавай, паколькі не забяспечваліся ў поўнай меры правы грамадзян у Рэспубліцы Беларусь, гарантаваныя Канстытуцыяй. Пры гэтым выпускаецца з-пад увагі, што Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь валодае вяршэнствам і прамым дзеяннем.

Канстытуцыйны Суд указаў, што ў адпаведнасці з артыкулам 142 Канстытуцыі законы, указы і іншыя акты, якія дзейнічалі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь да ўвядзення ў дзеянне Канстытуцыі, прымяняюцца ў частцы, якая не супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У сілу гэтага прыцягненне грамадзян да адказнасці па артыкулу 77 Крымінальнага кодэкса 1960 года за ўхіленне ад чарговага прызыву на ваенную службу было дапушчальна толькі пры выкананні патрабаванняў вышэйпрыведзеных норм Канстытуцыі па стварэнню дзяржавай умоў для праходжання грамадзянамі Рэспублікі Беларусь як воінскай, так і альтэрнатыўнай службы. Канстытуцыйны Суд лічыць, што пры наяўнасці права прызыўніка на альтэрнатыўную службу прыцягненне яго да крымінальнай адказнасці магчыма толькі за ўхіленне ад праходжання альтэрнатыўнай службы.

Узмацненню канстытуцыйных гарантый грамадзян будзе служыць хутчэйшае прыняцце закона аб альтэрнатыўнай службе, праект якога распрацоўваецца.

У сувязі з неадназначным разуменнем дзяржаўнымі органамі прававога статусу прыватных натарыусаў Канстытуцыйны Суд зноў разгледзеў пытанні, звязаныя з іх дзейнасцю. Яшчэ Заключэннем Канстытуцыйнага Суда ад 23 студзеня 1998 года было прадугледжана, што аднясенне прыватнай натарыяльнай дзейнасці пры вырашэнні пытанняў падаткаабкладання да прадпрымальніцкай дзейнасці не заснавана на пастановах Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 26 лістапада 1992 года і ад 18 студзеня 1994 года, іншых заканадаўчых актах. Аднак і пасля прыняцця Канстытуцыйным Судом указанага Заключэння прыватная натарыяльная дзейнасць, якая ажыццяўляецца прыватнымі натарыусамі, працягвала прыраўноўвацца да прадпрымальніцкай. У рашэнні Канстытуцыйнага Суда ад 15 чэрвеня 2000 года «Аб некаторых пытаннях, звязаных з прававым становішчам прыватных натарыусаў» Суд пацвердзіў сваю пазіцыю аб тым, што натарыяльная дзейнасць, ажыццяўляемая натарыусамі, якія займаюцца прыватнай практыкай, не з'яўляецца прадпрымальніцкай дзейнасцю. Заканадавец прадаставіў натарыусам пры ўчыненні натарыяльных дзеянняў роўныя правы і аднолькавыя абавязкі незалежна ад таго, працуюць яны ў дзяржаўнай натарыяльнай канторы ці займаюцца прыватнай натарыяльнай практыкай. Прыватны натарыус, аказваючы паслугі, не ўступае ў грамадзянскія праваадносіны з асобамі, якія звярнуліся за ўчыненнем натарыяльных дзеянняў. Пры ажыццяўленні натарыяльнай дзейнасці ён не мае права займацца іншай дзейнасцю, акрамя вызначанай пунктам 22 Палажэння аб натарыяце і натарыяльнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь. Прыватны натарыус дзейнічае ад імя дзяржавы, у той час як прыватны прадпрымальнік дзейнічае ад свайго імя. У гэтай сувязі рэгістрацыя прыватных натарыусаў у якасці індывідуальных прадпрымальнікаў не мае законных падстаў. Канстытуцыйным Судом устаноўлена, што прыватныя натарыусы неправамерна зарэгістраваны ў якасці індывідуальных прадпрымальнікаў.

У выкананне Заключэння Канстытуцыйнага Суда ад 23 студзеня 1998 года і рашэння Канстытуцыйнага Суда ад 15 чэрвеня 2000 года рашэннямі Брэсцкага, Віцебскага, Гродзенскага, Мінскага абласнога і Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў прыватныя натарыусы, зарэгістраваныя ў якасці прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, выключаны з Адзінага дзяржаўнага рэгістра юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў. Аналагічная работа, завяршыць якую мяркуецца ў бліжэйшы час, праводзіцца і ў іншых рэгіёнах.

Вывучыўшы змест пункта 2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 18 студзеня 1999 года № 30 «Аб тлумачэнні Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 8 лютага 1995 г. № 52», Канстытуцыйны Суд у Заключэнні ад 18 лютага 2000 года прызнаў адпавядаючай Канстытуцыі норму пункта 2 названага Указа як выдадзенага ў межах кампетэнцыі Прэзідэнта, якая прадугледжвае яго права на афіцыйнае нарматыўнае тлумачэнне прынятых ім нарматыўных прававых актаў у мэтах растлумачэння не толькі зместу растлумачваемых норм, але і парадку, і ўмоў іх прымянення да існуючых адносін.

Абзацам чацвёртым часткі другой пункта 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 8 лютага 1995 года № 52 было прадугледжана, што суб'ект гаспадарання павінен забяспечыць паступленне тавару па імпарту згодна з бартэрным кантрактам не пазней 60 каляндарных дзён з даты выканання экспартнай часткі гэтага кантракта.

Камітэт дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь прыцягваў суб'ектаў гаспадарання да адказнасці за парушэнне тэрмінаў атрымання тавараў пры кожнай экспартнай адгрузцы прадукцыі, аформленай асобнымі таварасуправаджальнымі дакументамі. Прымяняемыя ім эканамічныя санкцыі суб'ектамі гаспадарання, як правіла, не аспрэчваліся.

Неадназначнае на практыцы разуменне палажэнняў абзаца чацвёртага часткі другой пункта 1 Указа ад 8 лютага 1995 года № 52 у пэўнай меры было абумоўлена недакладнасцю яго тэрмінаў і фармулёвак, нявызначанасцю паняцця «экспартная частка бартэрнага кантракта», што і выклікала неабходнасць афіцыйнага тлумачэння дадзенага Указа.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь дзяржава, усе яе органы і службовыя асобы дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёй актаў заканадаўства (артыкул 7). Пры ажыццяўленні сваіх канстытуцыйных паўнамоцтваў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь мае права выдаваць нарматыўныя прававыя акты і даваць іх афіцыйнае тлумачэнне. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 18 студзеня 1999 года № 30 было растлумачана, што пад экспартнай часткай бартэрнага кантракта, аб якой ідзе гаворка ў абзацы чацвёртым часткі другой пункта 1 Указа ад 8 лютага 1995 года № 52, разумеецца кожная экспартная адгрузка прадукцыі, аформленая асобным таварасуправаджальным дакументам (мытная дэкларацыя, накладная і г.д.), або кожны этап выканання работ (аказання паслуг), аформлены асобным актам аб прыёмцы-здачы выкананых работ (аказаных паслуг). (Неабходна адзначыць, што аналагічныя растлумачэнні даваліся спецыялістамі ўпаўнаважаных дзяржаўных органаў у сродках масавай інфармацыі яшчэ ў 1995 годзе пасля прыняцця Указа № 52 (Нацыянальная эканамічная газета, 1995 г., № 8, 15, 24).

У сувязі з увядзеннем у дзеянне новых Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь, Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб зямлі і Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь узнік шэраг пытанняў, звязаных з валоданнем, карыстаннем і распараджэннем зямельнымі ўчасткамі, якія знаходзяцца ва ўласнасці грамадзян — членаў садаводчых таварыстваў. У сваіх зваротах грамадзяне ставілі пытанні аб парадку здачы ў арэнду зямельных участкаў, якія знаходзяцца на праве ўласнасці ў членаў садаводчых таварыстваў, у тым ліку ў выпадку іх часовага выезду за межы Рэспублікі Беларусь.

Канстытуцыйны Суд адзначыў, што зямельнае заканадаўства не ў поўнай меры рэгулюе адносіны, звязаныя з ажыццяўленнем членамі садаводчых таварыстваў правамоцтваў уласніка на прыналежныя ім зямельныя ўчасткі. У прыватнасці, не вызначаны парадак здачы дадзенага зямельнага ўчастка іншым спосабам у арэнду, а таксама распараджэння зямельным участкам не толькі пры часовым выездзе члена садаводчага таварыства за межы Рэспублікі Беларусь, як гэта прадугледжана Тыпавым статутам, але і ў іншых выпадках.

Рашэннем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 26 красавіка 2000 года «Аб неабходнасці ўдасканалення зямельнага заканадаўства, што датычыцца правоў членаў садаводчых таварыстваў, якія з'яўляюцца ўласнікамі зямельных участкаў» Савету Міністраў было прапанавана паскорыць прыняцце новага Тыпавога статута садаводчага таварыства, які б засноўваўся на грамадзянскім і зямельным заканадаўстве, і пры неабходнасці ўнесці кампетэнтным органам дзяржаўнай улады прапановы, якія прадугледжвалі б больш поўную заканадаўчую абарону правоў членаў садаводчых таварыстваў, якія з'яўляюцца ўласнікамі зямельных участкаў.

Прааналізаваўшы Палажэнне аб ліцэнзаванні ахоўнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь, зацверджанае пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 лютага 1999 года № 262, Канстытуцыйны Суд у сваім рашэнні ад 28 лютага 2000 года прыйшоў да вываду, што ўказанае Палажэнне, якое вызначыла фактычна вычарпальны пералік асоб, якім суб'ектамі гаспадарання, ажыццяўляючымі ахоўную дзейнасць, павінен быць забяспечаны бесперашкодны праход на аб'екты (тэрыторыю), не адпавядае нормам Канстытуцыі, законаў аб пракуратуры, аб органах дзяржаўнай бяспекі, аб Камітэце дзяржаўнага кантролю, КПК, Мытнага кодэкса, што стварала на практыцы насуперак патрабаванням гэтых законаў пэўныя цяжкасці ў рэалізацыі ўпаўнаважанымі службовымі асобамі некаторых дзяржаўных органаў сваіх функцый. Канстытуцыйны Суд адзначыў, што нормы законаў, якія вызначаюць правамоцтвы на доступ упаўнаважаных службовых асоб дзяржаўных органаў на аб'екты (тэрыторыю) прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый незалежна ад форм уласнасці і падведамаснасці для ажыццяўлення імі ва ўстаноўленым парадку сваіх службовых функцый, маюць непасрэднае дзеянне і не могуць быць абмежаваны падзаконнымі актамі. Ураду Рэспублікі Беларусь было прапанавана ўнесці ва ўказанае Палажэнне неабходныя ўдакладненні, якія выключаюць неадназначнасць яго разумення і прымянення на практыцы.

Прапановы Канстытуцыйнага Суда рэалізаваны Урадам у пастанове ад 31 мая 2000 года № 781.

Аналіз скарг, якія паступаюць у Канстытуцыйны Суд, паказвае, што адной з прычын іх узнікнення з'яўляецца неадназначнае разуменне і прымяненне норм дзеючага заканадаўства. Так, у скарзе грамадзяніна, які звольніўся з органаў унутраных спраў і мае спецыяльнае афіцэрскае званне, было ўказана, што пры яго прызыве на тэрміновую ваенную службу на агульных падставах у адпаведнасці з артыкулам 15 Закона «Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе» не была ўлічана наяўнасць у яго афіцэрскага звання і не прыняты да ўвагі тэрмін службы ў органах міліцыі.

Вывучыўшы дзеючае заканадаўства і практыку яго прымянення, Канстытуцыйны Суд у рашэнні ад 9 лістапада 2000 года адзначыў, што ў адпаведнасці з артыкулам 39 указанага Закона асобы вышэйшага, старшага і сярэдняга начальніцкага складу, якія маюць спецыяльныя званні, звольненыя з органаў Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, прымаюцца на воінскі ўлік у прысвоеных ім адпаведных званнях. Па меркаванню Канстытуцыйнага Суда, у дачыненні да асоб афіцэрскага складу, якія звольнены з органаў унутраных спраў у запас і прызываюцца на тэрміновую ваенную службу, мог бы быць выкарыстаны дыферэнцыраваны падыход, аналагічны ўжо ўстаноўленаму для ваеннай службы курсантаў, у тым ліку і курсантаў навучальных устаноў Міністэрства ўнутраных спраў, тэрмін ваеннай службы якіх змяншаецца ў залежнасці ад тэрміну навучання. У сувязі з гэтым Канстытуцыйны Суд у парадку артыкула 7 Закона «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь» звярнуўся ў кампетэнтныя органы з прапановай аб упарадкаванні дадзеных адносін у адпаведнасці з указаным Законам. Дзяржаўны Сакратарыят Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь падтрымаў вывады Канстытуцыйнага Суда аб тым, што прававое рэгуляванне некаторых пытанняў воінскага ўліку і прызыву на службу вызначаецца супярэчлівасцю і неадназначнасцю, і звярнуўся ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь з прапановай аб унясенні адпаведных змяненняў і дапаўненняў у нарматыўныя акты Урада, а таксама належным вырашэнні ўказаных пытанняў у новым законапраекце аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе.

У Канстытуцыйны Суд звярталіся грамадзяне, якія ўдзельнічалі ў складзе спецыяльных фарміраванняў у работах па размініраванню вызваленых ад нямецка-фашысцкай акупацыі тэрыторый у 1943—1945 гадах, па пытанню павелічэння іх пенсіённага забеспячэння з улікам часу іх службы ва ўказаных фарміраваннях. Канстытуцыйны Суд, прыняўшы 17 сакавіка 2000 года адпаведнае рашэнне, накіраваў са сваімі абгрунтаваннямі прапанову Савету Міністраў аб уключэнні ў працоўны стаж указаных асоб перыяду іх удзелу ў складзе спецыяльных фарміраванняў па размініраванню вызваленых тэрыторый. Гэтая прапанова была ўлічана Урадам пры падрыхтоўцы праекта адпаведнага закона, які ўнесены ў Нацыянальны сход.

Прадметам разгляду Канстытуцыйнага Суда быў таксама зварот членаў Савета Беларускага камітэта ветэранаў падраздзяленняў асобай рызыкі з пытаннем аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых запасу і ў адстаўцы з ліку такіх ветэранаў. Прааналізаваўшы дзеючае заканадаўства па дадзенаму пытанню, Канстытуцыйны Суд 7 сакавіка 2000 года звярнуўся ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь з прапановай аб унясенні ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу законапраекта, які прадугледжвае павелічэнне памераў пенсій за выслугу гадоў асобам з падраздзяленняў асобай рызыкі, іх больш поўнай сацыяльнай абароне. Публікацыі ў перыядычным друку па дадзенаму пытанню сведчаць аб грамадскай значнасці гэтай праблемы і неабходнасці яе вырашэння.

Зыходзячы з неабходнасці забеспячэння вяршэнства Канстытуцыі і прамога дзеяння яе норм, Канстытуцыйны Суд у мінулым годзе прымаў рашэнні і па іншых пытаннях, якія датычацца правоў і свабод грамадзян.

Вырашаючы кожную справу, Канстытуцыйны Суд аналізуе не толькі Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, але і міжнародна-прававыя акты (Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека, міжнародныя пакты аб грамадзянскіх і палітычных правах, аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах, дакументы ААН і інш.) У сілу таго, што Беларусь, як гэта замацавана ў Канстытуцыі (артыкул 8), прызнае прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права, яны для Беларусі абавязковыя. Канстытуцыйны Суд таксама ўлічвае, што згодна з артыкулам 15 Закона «Аб міжнародных дагаворах Рэспублікі Беларусь» агульнапрызнаныя прынцыпы міжнароднага права і нормы міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь, якія ўступілі ў сілу, з'яўляюцца часткай дзейнічаючага на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь права. Нормы права, якія змяшчаюцца ў міжнародных дагаворах Рэспублікі Беларусь, якія ўступілі ў сілу, з'яўляюцца часткай дзейнічаючага на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь заканадаўства, падлягаюць непасрэднаму

*(Заканэнне на 7-й стар.)*

# Аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 2000 годзе

*(Заканчэнне. Пачатак на 6,7-й стар.)*

прымяненню, акрамя выпадкаў, калі з міжнароднага дагавора вынікае, што для прымянення такіх норм патрабуецца выданне ўнутрыдзяржаўнага акта, і маюць сілу таго прававога акта, якімі выражана згода Рэспублікі Беларусь на абавязковасць адпаведнага міжнароднага дагавора. Разам з гэтым Канстытуцыйны Суд часта звяртаецца і да Еўрапейскай Канвенцыі аб абароне правоў чалавека і асноўных свабод, якой кіруецца ў сваёй дзейнасці Еўрапейскі Суд па правах чалавека. Аналіз названай Канвенцыі, якая не з'яўляецца абавязковай для Рэспублікі Беларусь, а таксама рашэнняў Еўрапейскага Суда садзейнічае вызначэнню Канстытуцыйным Судом Рэспублікі Беларусь сваёй пазіцыі па канкрэтных пытаннях. Рашэнні, якія Канстытуцыйны Суд прымаў у апошні час, грунтаваліся выключна на нормах Канстытуцыі і міжнароднага права.

Ацэньваючы ў цэлым выкананне прынятых у 2000 годзе рашэнняў, Канстытуцыйны Суд адзначае, што рашэнні Суда былі выкананы або знаходзяцца ў стадыі выканання. У 2000 годзе выкананы таксама шэраг рашэнняў, прынятых Канстытуцыйным Судом у 1999 годзе, у тым ліку рэалізаваны прапановы, якія Суд уносіў у дзяржаўныя органы ў мэтах удасканалення заканадаўства. Так, былі адноўлены льготы ўдзельнікам Вялікай Айчыннай Вайны па ўплаце зямельнага падатку за ўчасткі, што адводзяцца пад індывідуальныя гаражы.

Вялікую ўвагу выкананню прынятых Канстытуцыйным Судом рашэнняў удзяляе Кіраўнік дзяржавы як гарант Канстытуцыі, правоў і свабод грамадзян.

Дастаткова актыўна і плённа ў 2000 годзе ў галіне ўмацавання канстытуцыйнай законнасці і ўдасканалення бягучага заканадаўства з мэтай прывядзення яго ў адпаведнасць з Асноўным Законам Канстытуцыйны Суд узаемадзейнічаў з Саветам Міністраў. Некалькі складаных пытанняў вырашана Канстытуцыйным Судом у сувязі са зваротамі Вышэйшага Гаспадарчага Суда.

Больш цесным і актыўным ў галіне канстытуцыйнага кантролю, а значыць фарміравання нашай дзяржавы як дэмакратычнай сацыяльнай прававой, магло б быць супрацоўніцтва з палатамі Парламента, куды звяртаецца са скаргамі вялікая колькасць грамадзян. У 2000 годзе зваротаў у Канстытуцыйны Суд ад палат Парламента з прапановай аб праверцы канстытуцыйнасці нарматыўных актаў не было. Больш трох з паловай гадоў не паступала зваротаў ад Вярхоўнага Суда, хаця, як сведчыць замежная практыка, запыты агульных судоў складаюць значную колькасць зваротаў у канстытуцыйныя суды, што дазваляе вырашаць спрэчкі з удзелам грамадзян у строгай адпаведнасці з канстытуцыйнымі прадпісаннямі, аператыўна забяспечваць аднастайную судовую практыку і прызнаваць не маючымі юрыдычнай сілы нарматыўныя акты, якія супярэчаць Канстытуцыі.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй пасяджэнні Канстытуцыйнага Суда праводзіліся на беларускай і рускай мовах, яго рашэнні публікаваліся на абедзвюх дзяржаўных мовах у «Весніку Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь», у газетах «Звязда», «Народная газета» і іншых афіцыяльных выданнях, што садзейнічала забеспячэнню права грамадзян на інфармацыю, прадугледжанага артыкулам 34 Канстытуцыі, і больш эфектыўнай прававой абароне канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян.

## II

Канстытуцыя, Закон «Аб зваротах грамадзян», распараджэнне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб мерах па паляпшэнню работы са зваротамі грамадзян» разглядаюць прапановы, заявы і скаргі як адзін з важных інструментаў у арганізацыі і дзейнасці дзяржаўных органаў і службовых асоб па захаванню правоў і законных інтарэсаў грамадзян, які садзейнічае ўдасканаленню грамадскіх адносін.

Разгляд у Канстытуцыйным Судзе ў 2000 годзе асабістых і калектыўных зваротаў грамадзян, у тым ліку паступіўшых на асабістым прыёме ў кіраўніцтва і суддзяў Канстытуцыйнага Суда, сведчыць аб тым, што звароты грамадзян у адпаведнасці з артыкулам 40 Канстытуцыі ў дзяржаўныя органы і іх належнае вырашэнне з'яўляюцца эфектыўнай формай уплыву на ўдасканаленне заканадаўства, практыкі яго прымянення, забеспячэнне канстытуцыйнай законнасці ў грамадстве і дзяржаве. У мінулым годзе ў Канстытуцыйны Суд паступіла больш 700 зваротаў грамадзян, у тым ліку 58 ад грамадскіх аб'яднанняў і праваабарончых арганізацый, 133 грамадзяніны прыняты на асабістым прыёме. Па скаргах даваліся неабходныя растлумачэнні, многія з іх былі накіраваны для разгляду ў кампетэнтныя дзяржаўныя органы. Па зваротах, якія маюць грамадскую значнасць, Канстытуцыйны Суд, прымаючы рашэнні ў адпаведнасці са сваёй кампетэнцыяй, выказваў прававую пазіцыю па пастаўленых пытаннях і ўносіў адпаведныя прапановы дзяржаўным органам.

Як і ў мінулыя гады, найбольшая колькасць скарг грамадзян у 2000 годзе датычылася парушэння іх правоў і свабод у галіне жыллёвых, працоўных, адміністрацыйных, крымінальных, падатковых і іншых праваадносін. У гэтых зваротах указвалася, што мясцовыя органы, суды, праваахоўныя органы, а таксама некаторыя службовыя асобы не прымаюць усе неабходныя меры па абароне законных інтарэсаў грамадзян, а таксама прымяняюць нарматыўныя акты, якія, па меркаванню грамадзян, не адпавядаюць актам, што валодаюць больш высокай юрыдычнай сілай. У выпадку ўстанаўлення такіх фактаў службовыя асобы не заўсёды нясуць за гэта адпаведную адказнасць.

Практыка сведчыць аб тым, што грамадзяне звяртаюцца ў Канстытуцыйны Суд, вычарпаўшы, як правіла, усе іншыя сродкі прававой абароны ў іншых дзяржаўных органах. Адной з прычын звароту ў Канстытуцыйны Суд яны называюць таксама неабходнасць праверкі канстытуцыйнасці нарматыўных актаў, на падставе якіх вырашаліся канкрэтныя спрэчкі, паколькі такі кантроль у дзяржаве ўскладзены на Канстытуцыйны Суд. У сваіх пісьмах грамадзяне паведамляюць, што іх звароты да асоб, якія маюць права на ўнясенне прапаноў у Канстытуцыйны Суд, застаюцца без задавальнення. Адмаўляюць ім у задавальненні такіх хадайніцтваў насуперак патрабаванням артыкула 112 Канстытуцыі і агульныя суды пры разглядзе канкрэтных спраў.

Канстытуцыйны Суд адзначае, што ў 2000 годзе палатамі Парламента разгледжана некалькі тысяч зваротаў грамадзян, у тым ліку меліся скаргі на неканстытуцыйнасць палажэнняў асобных законаў, рашэнняў мясцовых Саветаў дэпутатаў, іншых нарматыўных актаў. Аднак адпаведныя прапановы ў Канстытуцыйны Суд імі не накіроўваліся, хаця Асноўны Закон ускладае на дзяржаву і яе органы абавязак прымаць усе даступныя ёй меры для стварэння ўнутранага і міжнароднага парадку, неабходнага для поўнага ажыццяўлення правоў і свабод грамадзян. Дзяржаўныя органы, службовыя і іншыя асобы, якім даверана выкананне дзяржаўных функцый, абавязаны ў межах сваёй кампетэнцыі прымаць неабходныя меры для ажыццяўлення і абароны правоў і свабод асобы (артыкул 59).

Дзейнічаючы ў межах сваіх паўнамоцтваў, Канстытуцыйны Суд не вырашае спрэчкі, якія ўзнікаюць у правапрымяняльнай практыцы па канкрэтных справах, што адносіцца да кампетэнцыі іншых судоў (агульных, гаспадарчых). Аднак яго выключным правам і прамым абавязкам з'яўляецца ажыццяўленне кантролю за канстытуцыйнасцю нарматыўных актаў, у тым ліку і тых, якія прымяняюцца пры разглядзе канкрэтных судовых спраў. Іменна такім чынам неабходна разумець палажэнні часткі другой артыкула 112, часткі першай артыкула 116, часткі чацвёртай артыкула 122, артыкула 137 і іншых артыкулаў Канстытуцыі. Палажэнні Канстытуцыі ў значнай меры атрымалі сваё развіццё ў Законе «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь». У прыватнасці, у артыкуле 6 указанага Закона вызначаны механізм рэалізацыі артыкула 112 Канстытуцыі. У гэтай сувязі сцвярджэнні аб адсутнасці ўрэгуляванага законам механізма звароту судоў у Канстытуцыйны Суд на прадмет праверкі адпаведнасці Канстытуцыі прававых норм, якія прымяняюцца імі пры вырашэнні канкрэтных спраў, з'яўляюцца беспадстаўнымі. Акрамя таго, неабходна мець на ўвазе, што канстытуцыйныя нормы валодаюць вяршэнствам і павінны прымяняцца непасрэдна.

Разглядаючы скаргі і звароты грамадзян, у тым ліку і калектыўныя, Канстытуцыйны Суд не мог пакідаць без увагі факты працяглага прымянення неканстытуцыйных прававых актаў, нягледзячы на тое, што органы, упаўнаважаныя Канстытуцыяй ставіць перад Канстытуцыйным Судом пытанні аб праверцы такіх актаў, не выконвалі свайго канстытуцыйнага абавязку, тым самым не садзейнічалі безумоўнаму і абавязковаму для ўсіх органаў і службовых асоб спыненню іх прымянення.

Працягваюць паступаць пісьмы грамадзян, якія датычацца невыканання патрабаванняў заканадаўства аб афіцыйным апублікаванні нарматыўных актаў. У сувязі з гэтым у зацікаўленых асоб узнікаюць сумненні ў законнасці дзеянняў, якія прымаюцца ў адносінах да іх.

У Канстытуцыйным Судзе у 2000 годзе разглядаліся і іншыя звароты грамадзян, якія датычацца неканстытуцыйнасці некаторых нарматыўных актаў або іх асобных палажэнняў, у прыватнасці па пытаннях статусу вязняў фашызму, пакрыцця шкоды, прычыненай жыццю і здароўю грамадзян, абароны асоб, якія пакутаюць на туберкулёз і ўтрымліваюцца ў папраўчых установах, умоўнадатэрміновага вызвалення ад пакарання непаўналетніх, у адносінах да якіх раней прымянялася амністыя, абароны правоў аўтараў вынаходніцтваў, размеркавання маладых спецыялістаў, кампенсацыі абясцэньвання грашовых укладаў насельніцтва і каштоўных папер, крэдытавання будаўніцтва жылля, аплаты камунальных паслуг і электраэнергіі (пры наяўнасці адпаведных ільгот) асобамі, якія часова адсутнічаюць у жылым памяшканні, і іншыя.

Па меркаванню Канстытуцыйнага Суда, паляпшэнню стану канстытуцыйнай законнасці ў дзяржаве, стварэнню дзейснага механізма абароны правоў і свабод асобы садзейнічала б прыняцце Закона «Аб Упаўнаважаным па правах чалавека» і надзяленне гэтай службовай асобы правам звароту ў Канстытуцыйны Суд у мэтах ініцыіравання канстытуцыйнага судаводства. Прадастаўленне такога ж права Генеральнаму пракурору як органу, які ажыццяўляе нагляд за дакладным і аднастайным выкананнем законаў, дэкрэтаў і іншых нарматыўных актаў, будзе служыць умацаванню канстытуцыйнасці ў дзяржаве. Акрамя таго, грамадзянам павінна быць забяспечана магчымасць рэалізоўваць заснаванае, у прыватнасці, на артыкулах 61, 116 і 122 Канстытуцыі права на абскарджанне ў Канстытуцыйны Суд рашэнняў нарматыўнага характару мясцовых Саветаў дэпутатаў, выканаўчых і распарадчых органаў, якія абмяжоўваюць або парушаюць іх правы, свабоды і законныя інтарэсы. Рэалізацыя гэтых прапаноў не патрабуе карэкціроўкі Канстытуцыі.

## III

Канстытуцыйны Суд адзначае, што ў выніку стварэння адпаведнай нарматыўнай базы і кадыфікацыі заканадаўства ў рэспубліцы сфарміраваны ўмовы для забеспячэння прынцыпу канстытуцыйнай стабільнасці, устанаўлення ўстойлівага правапарадку, фарміравання якасна новай прававой сістэмы. У шэрагу новых кодэксаў і законаў атрымалі канкрэтызацыю і развіццё палажэнні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародна-прававых актаў, улічаны многія прапановы Канстытуцыйнага Суда па ўдасканальванню дзеючага заканадаўства, якія вынікаюць з яго рашэнняў.

Разам з гэтым існуючая заканадаўчая аснова, асабліва ў частцы рэалізацыі і абароны правоў і свабод грамадзян, не пазбаўлена недахопаў, што не садзейнічае станаўленню прававой дзяржавы, стварэнню адкрытага цывільнага грамадства.

Для заканадаўчай практыкі апошніх гадоў характэрна адсутнасць сістэмнасці, на што Канстытуцыйны Суд звяртаў увагу і ў папярэдніх пасланнях аб стане канстытуцыйнай законнасці. Да гэтага часу не прыняты законы і іншыя нарматыўныя акты, якія прама агавораны ў Канстытуцыі або вынікаюць з яе палажэнняў (праграмныя законы аб асноўных напрамках унутранай і знешняй палітыкі, аб ваеннай дактрыне Рэспублікі Беларусь і інш.).

У якасці негатыўнага фактару ў законатворчасці патрэбна разглядаць тэндэнцыю да жорстага ўрэгулявання некаторых відаў грамадскіх адносін, што перашкаджае свабоднаму, творчаму развіццю асобы, дзелавой актыўнасці грамадзян і суб'ектаў гаспадарання. У цяперашні час важным з'яўляецца пераход да рэальнага ўмацавання прэзумпцыі правамернасці незабароненых паводзін грамадзян у грамадскай свядомасці і правапрымяняльнай практыцы, у дзейнасці праваахоўных органаў.

Асобным нарматыўным актам у парушэнне канстытуцыйнага прынцыпу — «закон не мае зваротнай сілы, за выключэннем выпадкаў, калі ён змякчае або адмяняе адказнасць грамадзян»(частка шостая артыкула 104 Канстытуцыі) прыдаецца зваротная сіла, што абмяжоўвае правы грамадзян, пагаршае іх прававое становішча. У такіх выпадках дзяржавай павінен быць забяспечаны дзейсны кампенсацыйны механізм абароны.

У законатворчай дзейнасці неапраўдана мала ўдзяляецца ўвагі пытанням прагназіравання вынікаў прымаемых актаў, вывучэння эфектыўнасці існуючых у іх механізмаў рэалізацыі нарматыўных прадпісанняў, аднаўленчай (кампенсацыйнай) сістэмы абароны парушаных правоў і свабод грамадзяніна, фарміравання грамадскай свядомасці да ўспрыняцця асобных сацыяльна значных законапраектаў. Усё гэта прыводзіць у шэрагу выпадкаў або да нізкай эфектыўнасці нарматыўных актаў, або нават да адмоўных вынікаў прымянення такіх актаў на практыцы.

Правапворчымі органамі не практыкуецца прыняцце нарматыўных актаў, якія прадугледжваюць перыяд адаптацыі суб'ектаў гаспадарання да зменených умоў іх дзейнасці. Асобным заканадаўчым актам уласцівы разбалансаванасць, супярэчлівасць, прабельнасць, дэкларатыўнасць, механічнае аднаўленне і неапраўданае дубліраванне нарматыўных прадпісанняў іншых нарматыўных актаў, калізійнасць прававых прадпісанняў.

У некаторых новых заканадаўчых актах, напрыклад у Працоўным кодэксе, ёсць яўна неўзгодненыя або супярэчлівыя адна адной нормы (артыкулы 43, 46, пункт 1 часткі трэцяй артыкула 115, артыкулы 120 і 210, артыкул 148 і частка першая артыкула 69, артыкулы 247 і 249, частка трэцяя артыкула 268 і пункт 1 артыкула 44 і інш.). Важная роля ва ўстараненні недахопаў у заканадаўстве належыць агульным судам, якія вырашаюць канкрэтныя спрэчкі. Па меркаванню Канстытуцыйнага Суда, прымяняючы нормы актаў заканадаўства, суды, іншыя правапрымяняючыя органы і службовыя асобы абавязаны няўхільна іх выконваць або, пры наяўнасці супярэчнасцей у іх, а таксама абгрунтаваных прапаноў аб іх неканстытуцыйнасці, прымаць меры, у тым ліку і выкарыстоўваючы магчымасці канстытуцыйнага кантролю, па прывядзенню ва ўстаноўленым парадку гэтых актаў у адпаведнасць з Канстытуцыяй (напрыклад, артыкул 245, частка пятая артыкула 400 Працоўнага кодэкса і інш.).

Маюць месца выпадкі, калі замацаваныя Канстытуцыяй і законамі правы і свабоды грамадзяніна нярэдка абмяжоўваюцца або ігнаруюцца ў падзаконных актах, а яшчэ часцей — у правапрымяняльнай дзейнасці. Тым самым парушаюцца як палажэнні артыкула 23 Канстытуцыі, які змяшчае вычарпальны пералік абмежаванняў правоў і свабод асобы, так і патрабаванні артыкула 142 Асноўнага Закона, які прадугледжвае, што законы, указы і іншыя акты, што дзейнічалі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь да ўвядзення яго ў дзеянне, прымяняюцца ў частцы, якая не супярэчыць Канстытуцыі.

Шэраг артыкулаў Канстытуцыі, якія вызначаюць правы чалавека і змяшчаюць нормы прамога дзеяння, не маюць патрэбы ў іх канкрэтызацыі законам або іншым нарматыўным актам. Гэта азначае, што паводзіны чалавека, які кіруецца такімі артыкуламі Канстытуцыі, з'яўляюцца правамернымі. Не выключана, што для вызначэння правамернасці асобных дзеянняў грамадзяніна і дзяржавы неабходна канкрэтызацыя некаторых канстытуцыйных норм у законах і іншых нарматыўных актах. На практыцы, аднак, маюць месца выпадкі, калі грамадзяніну адмаўляюць у рэалізацыі яго права або яго абароне са спасылкай на адсутнасць неабходнага нарматыўнага акта. Але ў такім выпадку адсутнасць актаў, што канкрэтызуюць канстытуцыйную норму, або звужэнне, абмежаванне яе дзеяння на практыцы патрэбна разглядаць як парушэнне Канстытуцыі, якое з'яўляецца падставай для аднаўлення і абароны парушанага права.

Па меркаванню Канстытуцыйнага Суда, сёння на першы план у пытаннях гаспадарання, забеспячэння правоў і свабод грамадзян павінна быць вылучана стабільнасць рэгулявання адпаведных грамадскіх адносін. У той жа час гэта не азначае, што нормы, якія перашкаджаюць развіццю дэмакратычных працэсаў, рэалізацыі правоў і свабод грамадзян або не забяспечваюць іх належную абарону, могуць працягваць дзейнічаць. Такія нормы падлягаюць неадкладнаму перагляду. Гэтаму павінна садзейнічаць паўсядзённая, карпатлівая работа кампетэнтных дзяржаўных органаў па перагляду актаў дзеючага заканадаўства, своечасоваму выяўленню ўстарэлых норм у мэтах прызнання іх страціўшымі сілу. Асабліва гэта датычыцца норм актаў, лёс якіх у сувязі з прыняццем новых актаў не вызначаецца, што негатыўным чынам адбіваецца на правапрымяняльнай практыцы.

## IV

Міжнародныя адносіны Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь заснаваны на пазіцыі адкрытасці і гатоўнасці да дыялогу з любымі міжнароднымі арганізацыямі, мэтамі якіх з'яўляюцца развіццё канстытуцыяналізму і абарона правоў і свабод грамадзян. Адкрытая дзейнасць Канстытуцыйнага Суда дазваляе любым асобам, у тым ліку міжнародным і замежным арганізацыям, якія цікавяцца праблемамі канстытуцыйнага кантролю, атрымаць аператыўную інфармацыю аб Канстытуцыйным Судзе. Зборнікі заключэнняў і рашэнняў Канстытуцыйнага Суда рассылаюцца зацікаўленым органам і асобам.

Цікавасць да дзейнасці Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь выразілася ў правядзенні шматлікіх сустрэч Старшыні, суддзяў і работнікаў Сакратарыята са спецыялістамі міжнародных арганізацый. У іх ліку прадстаўнікі ААН, АБСЕ, Бюро по дэмакратычных інстытутах і правах чалавека, Амерыканскай асацыяцыі юрыстаў, розных праваабарончых арганізацый, замежныя назіральнікі за ходам парламенцкіх выбараў і іншыя.

Прытрымліваючыся пазіцыі аб разнастайным характары міжнародных сувязей, Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь у мінулым годзе сканцэнтраваў свае намаганні ў двух асноўных напрамках — развіццё супрацоўніцтва ў рамках Канферэнцыі органаў канстытуцыйнага кантролю краін маладой дэмакратыі і Канферэнцыі канстытуцыйных судоў Еўропы.

Вышэйуказаныя напрамкі развіваліся дастаткова дынамічна, што выразілася ва ўдзеле прадстаўнікоў Канстытуцыйнага Суда ў замежных міжнародных канферэнцыях, а таксама пры падтрымцы Кіраўніка дзяржавы ў арганізацыі і правядзенні 5-6 чэрвеня 2000 года ў Мінску другой Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Канстытуцыйнае судаводства». У рабоце дадзенага форуму прынялі ўдзел прадстаўнікі шэрагу канстытуцыйных судоў, міжнародных арганізацый, вучоныя і практычныя работнікі з розных устаноў нашай краіны. Удзельнікамі канферэнцыі была прызнана вялікая карысць падобных сустрэч для развіцця канстытуцыяналізму ў краінах СНД, адзначана важная роля Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ва ўмацаванні дэмакратыі і прасоўванні ідэй прававой дзяржавы шляхам абмену ідэямі і прававымі распрацоўкамі паміж органамі канстытуцыйнага кантролю краін маладой дэмакратыі.

Важнае значэнне ў мінулым годзе меў удзел дэлегацыі Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь 19 — 22 кастрычніка ў падрыхтоўчым пасяджэнні старшынь канстытуцыйных судоў Еўропы, якое адбылося ў Брусэлі, да правядзення XII Канферэнцыі канстытуцыйных судоў Еўропы. У выніковым дакуменце падрыхтоўчага пасяджэння былі прызнаны вялікія намаганні Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь па станаўленню прававой дзяржавы, абароне канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян, выказана падтрымка Канстытуцыйнаму Суду Беларусі ў яго дзейнасці.

* * *

У 2000 годзе дзейнасць Канстытуцыйнага Суда грунтавалася, як і раней, на нормах Канстытуцыі (артыкулы 7, 8, 40, 59, 116), якія абавязваюць дзяржаву прымаць усе даступныя ёй меры для стварэння ўнутранага і міжнароднага парадку, неабходнага для поўнага ажыццяўлення правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь, прадугледжаных Канстытуцыяй, а дзяржаўныя органы, службовых і іншых асоб, якім даверана выкананне дзяржаўных функцый, — меры для ажыццяўлення і абароны правоў і свабод асобы.

Практыка ажыццяўлення канстытуцыйнага кантролю сведчыць аб асобай значнасці гэтага віду дзейнасці ў мэтах фарміравання дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавы, умацавання канстытуцыйнага ладу, рэалізацыі і абароны правоў і свабод кожнага чалавека і грамадзяніна. Канстытуцыйны Суд забяспечвае вяршэнства Канстытуцыі, умацоўвае канстытуцыйную законнасць, усталёўваючы дзеянне ў прававой сістэме прынцыпаў права, якія выступаюць у якасці асноватворных пачаткаў, арыенціраў нарматворчага працэсу, накіроўваючых ідэй для правапрымяняльнай дзейнасці, распаўсюджваюцца на ўсе суб'екты гаспадарання. У сваёй дзейнасці Канстытуцыйны Суд замацоўваў перш за ўсё такія прынцыпы, як вяршэнства права, прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права, прамое дзеянне канстытуцыйных норм, захаванне іерархіі нарматыўных актаў, даступнасць правасуддзя, у тым ліку і канстытуцыйнага правасуддзя, недапушчальнасць прыдання зваротнай сілы нарматыўным актам, якія пагаршаюць становішча ўдзельнікаў праваадносін, сацыяльная справядлівасць, раўнапраўе, гуманізм, узаемная адказнасць дзяржавы і асобы, прэзумпцыя правамерных паводзін грамадзяніна і іншыя. Указаныя прынцыпы права носяць універсальны характар і аказваюць рэгулюючае ўздзеянне на ўсе сферы грамадскіх адносін. Агульнаабавязковасць такіх прынцыпаў заключаецца як у прыярытэтнасці іх перад іншымі прававымі ўстанаўленнямі, так і ў распаўсюджанні іх дзеяння на ўсе суб'екты права.

Канстытуцыйны Суд разлічвае, што гэта Пасланне паслужыць далейшаму ўмацаванню канстытуцыйнай законнасці ў дзяржаве, удасканаленню прававой сістэмы Рэспублікі Беларусь.

*Гэта Пасланне прынята на пасяджэнні Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь 22 студзеня 2001 года.*

**Старшынствуючы —**
**Старшыня Канстытуцыйнага Суда**
**Рэспублікі Беларусь**
**Р.А. ВАСІЛЕВІЧ**

ПАЭЗІЯ

**Даўні чытач і аўтар «Звязды», адзін са старэйшых беларускіх паэтаў Пятро Прыходзька (ён ужо адсвяткаваў свой 80-гадовы юбілей) даслаў у рэдакцыю верш. Паэзія на старонкі «Звязды» трапляе нячаста: па статусу наша газета — грамадска-палітычнае, а не літаратурна-культуралагічнае выданне.**

**І ўсё ж восеньскі верш Пятра Прыходзькі, здаецца, блізкі па светаадчуванню, думках, уражаннях многім чытачам.**

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

## Позняя восень

*Лета ў вырай адплыло паволі,*
*Наступілі з неба халады.*
*Восень на зіму ўжо ў лузе, ў полі*
*Нанасіла для зямлі вады.*
*Маладосць маю даўно далёка*
*Ўдаль кудысь аднеслі жураўлі.*
*Але ў доле яшчэ больш глыбока*
*Дрэвы ў вузел карані сплялі.*
*Іх садзіў я сам, ім вецер вее*
*Па-над ціхай Бесяддзю-ракой.*
*Маладая рунь — мая надзея,*
*Яе гладжу цёплаю рукой.*
*Наваколле хмаркаю паліта,*
*Ціха гасне летніх дзён цяпло.*
*І нібы прасеяна праз сіта*
*Ясных зор іскрыстае святло.*
*Адышло дваццатае стагоддзе,*
*І над шляхам пройдзеным маім*
*Восень позняя з зямлёю ў згодзе*
*Праплывае воблакам сівым.*
*За далёкім сінім небасхілам*
*Жнівень яркай знічкаю пагас.*
*Але плёну працы, творчым сілам*
*Даспадобы гэты час якраз.*
*Толькі трэба ласкава, з натхненнем*
*Завязаць мацней у песні ніць.*
*Каб мінулых колераў, адценняў,*
*Што даспелі ў леце, не ўпусціць.*
*Атуліць іх трэба шчырым сказам,*
*Сэрцам напісаць чарговы верш, —*
*І ты з восенню сваёю разам*
*Яшчэ радасць людзям прынясеш!*

1 кастрычніка 2000 г.







Модніцы — усюды модніцы

***Нарвегія, г. Транхейм.***

**Фота Васіля ЗЯНЬКО.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Чытаем кнігу — як па нотах

**Главы гэтай кнігі сапраўды выбудаваны, як музычны твор. Сем глаў — сем актаў. У кожнай главе сем падглаў — як сем нот. Аўтар кнігі «Басанож па зорках» Уладзімір Ліпскі не выпадкова такім чынам пабудаваў яе, бо прысвечана яна кампазітару Ігару Лучанку.**

Гэтае імя гаворыць ужо само за сябе і нават не патрабуе ўдакладнення ўсіх заслужаных кампазітарам званняў. Біяграфія Ігара Лучанка, якую ён сам шчыра і падрабязна расказаў аўтару кнігі, яго шлях да музыкі, да беларускай песні, яго пошук свайго музычнага стылю, у рэшце рэшт, яго каханне, якое ўвесь час давала натхненне, дазваляюць зразумець, дзе вытокі папулярнасці твораў кампазітара і адкуль узяўся яго непараўнальны лірызм.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...

# *Не гуляйце вяселле ў поўню!*

**Жыць па законах Месяца заклікаюць вядомыя расійскія астролагі Ф. Вялічка і С. Вронскі, даказваючы, што ў такім выпадку ўсе нашы справы будуць ісці больш паспяхова. Чаму?**

Яшчэ ў XIII стагоддзі астролагі заўважылі цікавую і даволі карысную для штодзённага жыцця аналогію: змена месяцавых фаз (іх чатыры) паўтарае па з'явах прыроды, якія ёй спадарожнічаюць, змену пор года (іх таксама чатыры). Аказваецца, кожныя 29,5 дня ад маладзіка да наступнага маладзіка (працягласць цыкла зменных фаз) мы перажываем усе чатыры поры года — зіму, вясну, лета і восень.

«Месяцавая зіма» — гэта 7 дзён з цэнтрам у маладзіку — перыяд змяншэння жыццёвай актыўнасці, спаду біярытмаў, а ніжэйшая кропка гэтага спаду — маладзік.

Месяцавая «вясна» — перыяд абуджэння і росту ўсяго жывога, у тым ліку і нашага аптымізму, — 7 дзён з цэнтрам у першай чвэрці. «Лета» — гэта 7 дзён з цэнтрам у поўні — перыяд поўнага росквіту жыццядзейнасці з максімальным уздымам біярытмаў у поўню, якое адпавядае «макаўцы лета».

Нарэшце, «месяцавая «восень» — перыяд паступовага спаду жыццядзейнасці, падрыхтоўкі арганізма да зімовай спячкі — гэта 7 дзён з цэнтрам у кропцы апошняй чвэрці. Пры гэтым падліку мы з вамі згубілі 1,5 дня — іх мы прыплюсуем пароўну да дзвюх важнейшых кропак гэтага цыкла — маладзіка і поўні.

У перыяд растучага Месяца чалавек больш актыўны, энергічны, ён здольны пераконваць іншых і заражаць сваім энтузіязмам. Біярытмы ў яго як бы ідуць уверх. Ён больш удалы ў сваіх пачынаннях.

У перыяд убываючага Месяца жыццяздольнасць арганізма зніжаецца, чалавек менш актыўны, хутчэй стамляецца, рэакцыя ў яго паніжаная, справы ідуць туга.

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на фазы маладзіка і поўні. Кожнай фазе адводзім тры дні: дзень перад фазай, дзень фазы і наступны дзень. Дата і час наступлення маладзіка і поўні адзначаны ў адрыўных календарах. У маладзік наш арганізм знаходзіцца на самым дне спаду жыццёвай актыўнасці. Імунітэт найбольш слабы, высокая верагоднасць падхапіць якую-небудзь заразу. Узрастае верагоднасць памылак і збояў у паводзінах. Рэакцыя ў вадзіцеляў і пешаходаў запаволеная. Забеспячэнне мозга кіслародам пагаршаецца, кроў як бы адлівае да ног (аналогія з дрэвамі, сокі якіх зімой канцэнтруюцца ў карэннях).

***Маладзік, як правіла, мацней уплывае на мужчын. Яны ў гэты час псіхічна напружаныя, агрэсіўныя, нервовыя і малакамунікабельныя — да іх лепш не звяртацца з просьбамі ў гэты час. На маладзік лепш не назначаць калектыўныя мерапрыемствы, традыцыйна звязаныя з распіваннем алкагольных напояў.***

У поўню кроў прылівае да галавы, і гэта таксама не вельмі добра — мы крыху ўзвінчаныя, менш уважлівыя, часцей, чым у іншы час, робім памылкі.

У поўню не рэкамендуецца прымаць адказныя рашэнні, хадзіць з непакрытай галавой па вуліцы і спаць пад прамымі праменнямі поўнага Месяца.

Статыстыка паказвае, што ***ў поўню расце колькасць дарожна-транспартных здарэнняў, цяжкіх злачынстваў, раптоўных сварак і хуліганскіх выхадак.*** Псіхічна хворыя асабліва неспакойныя ў поўню. Павялічваецца і колькасць самазабойстваў. Лекі, прынятыя ў поўню, дзейнічаюць мацней і больш актыўна праяўляюць сваё пабочнае дзеянне.

***На жанчын поўня ўплывае мацней, чым на мужчын. Спіртныя напоі ў поўню катэгарычна проціпаказаныя,*** маленькі келіх спіртнога можа абярнуцца вялікай трагедыяй. Бо менавіта ў поўню, на піку сваіх біярытмаў, чалавек не ведае, куды дзяваць сваю сілу, а якая яна з адурманенымі мазгамі, выдатна можа сабе ўявіць. Таму ***вяселлі і іншыя святы ніколі не прымяркоўвайце да поўні.***

**«Тайная власть».**

| Род дзейнасці | Дні месяца | |
|---|---|---|
| | Спрыяльныя | Неспрыяльныя |
| Шлюб, заручыны | 6,10, 11, 15, 17, 21, 26, 27 | 3-5, 8, 9, 12, 13, 14, 19, 29 |
| Дагаворы, кантракты | 4, 6, 10, 14: 27 | 3, 5, 12, 13, 29 |
| Хатнія справы, рамонт, уборка | 2, 4, 10, 20, 21 | 3, 5, 12, 13, 29 |
| Кватэрныя абмены, пераезды | 2, 8, 21, 25 | 3, 5, 12, 13, 19, 22, 26, 29 |
| Зносіны з начальствам, зварот у афіцыйныя інстанцыі | 7 | 3, 5, 12, 13, 15, 19 |
| Адпачынак, паездкі, турызм | 8, 11, 14, 16, 21, 25 | 3, 5, 12, 13, 29 |
| Паступленне на работу | 10, 20, 27, 30 | 3, 5, 12, 13, 26, 29 |
| Творчая дзейнасць | 2, 6 | 3, 5, 12, 13, 29 |
| Трэніроўка і выкарыстанне фенаменальных здольнасцяў | 1, 4, 6, 14, 5, 12, 13, 29 | 3, 5, 12, 13, 29 |
| Вучоба, экзамены | 2, 6 | 3, 5, 12, 13, 29 |

ІНФАРМУКОЛ

## Мацярынскае малако змагаецца з ракавымі клеткамі

Да такой высновы ў ходзе эксперыментаў прыйшлі шведскія навукоўцы. Яны выявілі рэчыва, якое забівае ракавыя клеткі, — бялок альфа-лактальбумін.

Магчыма, клеткі, што прыводзяць да злаякаснай пухліны, з'яўляюцца ўжо ў немаўлят. Альфа-лактальбумін уздзейнічае не толькі на ракавыя, але і на ўсе віды маладых клетак, не шкодзячы здаровым. Медыкі дапускаюць выкарыстанне гэтага рэчыва для спынення інфекцыі да таго, як яна перарасце ў хваробу.

Першым крокам у апрабацыі прэпарата, створанага на аснове бялка, будуць доследы на жывёлах. Паколькі новы прэпарат — прыроднае злучэнне, навукоўцы спадзяюцца, што ён не будзе такім таксічным, як большасць проціракавых прэпаратаў.

## Кава супраць радыяцыі

Калі вы пачуеце роў паветранай трывогі і побач з вашым домам будзе гатовы вырасці ядзерны грыб, вам лепш падумаць пра...свежую каву. Калі да ўдару вы паспееце выпіць сотню кубачкаў, вашы шанцы выжыць пасля смяротнай дозы радыяцыі значна павысяцца.

Прынамсі, так лічаць навукоўцы з Цэнтра даследаванняў атамнай энергіі Бамбея.

Пацукі, якім уводзілі кафеін за гадзіну да апраменьвання, жылі значна даўжэй за сваіх сабратоў, якім не зрабілі выратавальнай ін'екцыі. Для дарослага мужчыны паўнацэннай заменай ін'екцыі кафеіну могуць стаць 100 кубачкаў кавы, калі выпіць іх непасрэдна перад апраменьваннем. Аднак трэба быць асцярожным пры ўжыванні кавы пасля апраменьвання — будзе толькі горш.

## Для здароўя некарысныя нават малыя дозы алкаголю

Новыя даныя ставяць пад сумненне станоўчы ўплыў на здароўе ўмеранага ўжывання спіртнога.

Навукоўцы з Шатландыі даследавалі сувязь паміж спажываннем алкаголю і смяротнасцю сярод 5766 шатландскіх рабочых, якіх назіралі на працягу 21 года. Тыя, хто ўжываў да 14 адзінак спіртнога на працягу тыдня (бутэлька піва роўная дзвюм адзінкам, бутэлька віна — шасці адзінкам), мелі той жа паказчык смяротнасці, што і тыя, хто не п'е і п'е зрэдку (32 працэнты абследаваных). Па меры павелічэння ўжывання спіртных напояў расла і рызыка смерці.

Сярод людзей, якія выпіваюць тры з паловай бутэлькі віна ў тыдзень (да 21 адзінкі) рызыка смерці павялічваецца да 1,34. Рызыка ўзрастала да 1.49 для тых, хто ўжывае 22—34 адзінкі спіртнога, і да 1,74 для тых, хто выпівае больш за 35 адзінак спіртнога.

Даследаванне абвяргае думку пра дабрачынную ахоўную ролю ўмеранага ўжывання алкаголю для сардэчнасасудзістай сістэмы.

## Курэнне вядзе да лейкозу

Прынамсі, грамадскасць гэтае сумніўнае задавальненне і жудасную навалу між сабой не звязвала.

Навукоўцы з Паўночнай Англіі абследавалі 800 пацыентаў, хворых на лейкоз, і прыйшлі да высновы, што 10 працэнтаў выпадкаў захворвання абумоўлены заганнай звычкай курэння.

Даследчыкі лічаць, што найбольш рызыкуюць захварэць на лейкоз курцы са стажам 10 і больш гадоў. Але ёсць і добрыя навіны.

Рызыка захворвання зніжаецца да нармальнага для звычайнага чалавека ўзроўню на працягу года пасля адмовы ад курэння.

АБ'ЯВЫ

**У суд Чыгуначнага раёна г. Гомеля** (вул. Пушкіна, 10, каб. 46) паступіла заява аб прызнанні адсутным без вестак **КУХАРАВА Рустама Абдукатавіча,** 19 студзеня 1966 года нараджэння, ураджэнца г. Сяміпалацінска, Казахстан, апошняе месца жыхарства — г. Гомель, вул. П. Броўкі, д. 17, кв. 94. Просьба да ўсіх грамадзян і юрыдычных асоб, якія маюць звесткі аб дадзеным грамадзяніне, паведаміць аб гэтым у суд на працягу 2 месяцаў з моманту апублікавання аб'явы.

*Упраўленнем юстыцыі Мінгарвыканкама зарэгістравана гарадское маладзёжнае грамадскае аб'яднанне* ***«Аиесек».*** *Пасведчанне аб рэгістрацыі № 05/0267 ад 4 студзеня 2001 г.*

Згубленае **пасведчанне інваліда II групы**, выдадзенае на імя **Ляткевіч Клаўдзіі Мікалаеўны**, лічыць несапраўдным.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, С. РАСОЛЬКА, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), Л. СВІДРЫЦКАЯ, В. ХУРСІК, С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: навінаў — 68-27-41, крымінальнай хронікі — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-27-57, культуры — 68-29-42, 68-27-51, пісьмаў — 68-28-27, 68-28-64, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; сакратарыята — 32-38-02, 68-28-15; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75; у Віцебску — 33-72-80, бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.* **«ДЛЯ ВАС»** *— 32-44-12*

*ФАКС: 68-27-79. html: www.zvyazda.minsk.by E-mail: info@zvyazda.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 70.611. Індэкс 63850.
Зак. № 599.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12